16 лістапада 2018 | № 42 (605)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

9 772218 214005 18042

Меркель сыходзіць, прыходзіць Мерц?

Стар. 9

4 ГАЛАСАВАННЕ НАГАМІ

Колькі ні вымаўляй абрэвіятуру БРСМ, а каля 70% моладзі дэкларуюць сваю гатоўнасць выехаць на ПМЖ з Беларусі



5 «ГУЛЯЛІ Ў ТЫМ ЖОЎТЫМ ПЯСОЧКУ...»

Канвеер смерці працаваў бездакорна. «Варанкі» прыязджалі і нязменна вярталіся ў Мінск за новай партыяй тых, каму была наканаваная смерць...

6–7 САКРЭТ ІВАНА ЦІЦЯНКОВА

У чым быў сакрэт Ціцянкова? Яго раскрыла мясцовая жыхарка, пенсіянерка Софʼя Ільінічна Дуброўская



11 ФРАНЦУЗСКІ СЛЕД ТЭАДОРА НАРБУТА

Нечаканым французскім следам Нарбута стаў план Вільні ў картаграфічнай калекцыі Нацыянальнай бібліятэкі Францыі



# Бляск і беднасць беларускай Феміды



Дзіяна СЕРАДЗЮК

**На мінулым тыдні ў сеціве зʼявіліся здымкі шыкоўных інтэрʼераў новага будынка Вярхоўнага суда. Багатыя жырандолі, аздобленыя шклянымі вітражамі сцены, велічная статуя багіні правасуддзя...**

Новы чатырохпавярховы будынак Вярхоўнага суда на вуліцы Арлоўскай у Мінску не толькі знаходзіцца літаральна праз дарогу ад Палаца Незалежнасці, але і паўтарае яго стылістыку, што не дзіўна: абодва праекты зрабіў архітэктар Уладзімір Архангельскі.

Адкрыць новы «храм правасуддзя» планавалася да 7 лістапада, але не паспелі, хоць будоўля ішла досыць хуткімі тэмпамі. І, варта адзначыць, абышлася бюджэту ў круглую суму. Згодна з тэндарамі на дзяржаўныя закупкі, адзін толькі фантан з асвятленнем каштуе амаль 300 тысяч долараў (598 594 рублі), а мастацкі дэкор будынка абыдзецца ў 814 тысяч долараў. За герб і надпіс «Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь» для фасада заплацілі больш за 112 тысяч долараў, крышталёвая жырандоля індывідуальнага вырабу для цэнтральнага хола абышлася амаль у 90 тысяч долараў.

Але гэта яшчэ не ўсё. Вырабы з натуральных камянёў беларускай вытворчасці на 1027 квадратных метраў будынка абышліся бюджэту ў 562 тысячы долараў. На падлозе — венгерскае спартовае пакрыццё, 132 квадраты якога каштавалі 5,3 тысячы долараў.

Камяні для брукаванкі і гранітны борт для будынка суда пацягнулі на 390 тысяч долараў. А ўжо згаданы фантан за 300 тысяч долараў у дадатак абліцуюць гранітам за 30 тысяч долараў.

Што да ўсялякай «драбязы» накшталт лесвічных дываноў, іх для будынка галоўнага беларускага суда прывезлі з Бельгіі, выдаткаваўшы амаль 6 тысяч долараў за 40 квадратных метраў. А каб наведвальнікі і супрацоўнікі суда лішні раз не таптали дарагія бельгійскія дываны на лесвіцах, дастаўляць іх з паверха на паверх будуць тры магілёўскія ліфты, за якія заплацілі 88 тысяч долараў (па 28 тысяч за штуку).

Што, ужо закружылася галава ад касмічных лічбаў? Чакайце, гэта яшчэ не ўсё.

Звонку будынак падсвецяць адмысловым абсталяваннем за 95 тысяч долараў. На ўваходзе наведвальнікаў будзе сустракаць флагшток за 17 тысяч долараў з дзяржаўным сцягам. Што да малых архітэктурных формаў (36 гранітных вазонаў, 17 гранітных лаваў, 6 гранітных сметніц), выкарыстаных для аздаблення будынка Вярхоўнага суда, то абышліся яны бюджэту краіны ў зусім не малую суму — амаль у 60 тысяч долараў.



Фота www.svaboda.org



Фота www.tut.by



Трэба дадаць, што будаўніцтва Вярхоўнага суда Беларусі, які ўсё ж плануюць адкрыць на лета, фінансуецца з дзяржаўнага бюджэту, бюджэту Мінска, а таксама за кошт інвестараў ды «іншых крыніц». Праўда, у якой прапорцыі і якая ў гэтым фінансаванні доля грошай падаткаплацельшчыкаў — то бок нас з вамі — невядома. Затое цяпер кожны беларускі мужчына зможа ганарыцца, што выканаў хаця б адну частку з трыяды «дрэва — дом — сын»: маўляў, не тое што дом, а цэлы Вярхоўны суд фундаваў!

Насамрэч, зʼяўленне здымкаў інтэрʼераў суда магло б стаць нагодай для чарговых інтэрнэт-мемаў на тэму «дарага-багата», каб на гэтым фоне не зʼявілася яшчэ адна навіна аб тым, што траціна беларусаў (а гэта больш за тры мільёны чалавек!) не можа сабе дазволіць мінімум тавараў і паслуг. І колькасць такіх людзей у нашай краіне павялічваецца трэці год запар. Так, у мінулым годзе ў краіне налічвалася 3 мільёны 10,3 тысячы чалавек (або амаль 34% ад агульнай колькасці насельніцтва краіны), сярэднедушавыя рэсурсы якіх не перасягалі мінімальны спажывецкі бюджэт у разліку на аднаго сямейніка ў сямʼі з чатырох чалавек за месяц — 317,72 рубля.

Дык для каго будуюцца ўсе гэтыя шыкоўныя саркафагі? Можа, ад яскравасці падсветкі ў фантане ці дарагавізны абліцоўкі сцен беларускі суд раптам стане справядлівым? Ці паўплываюць на незалежнасць суддзяў і шчырасць паказанняў сведак-міліцыянтаў шкляныя вітражы і шыкоўныя жырандолі?

У мяне на гэты конт няма ніякіх ілюзій. Папросту чым горшае становішча ў дзяржаве, тым важней яе кіраўніцтву любымі спосабамі даказаць адваротнае, каб утрымаць уладу ў руках. Не хапае грошай з зарплаты ці пенсіі дажыць да канца месяца? Лухта, затое звярніце ўвагу, які ў нас суд прыгожы. У краіне вялікія праблемы з правамі чалавека? Ды не можа быць, вы толькі паглядзіце, які багаты беларускі Вярхоўны суд — адразу бачна, тут паважаюць закон.

Але самае крыўднае, што гэта ўзвядзенне пацёмкінскіх вёсак (ці судоў, як у дадзеным выпадку) сапраўды робіць уражанне і дасягае сваёй мэты — схаваць за штучным бляскам сапраўдныя праблемы грамадства. Дык, можа, наспеў ужо час расплюшчыць вочы і азірнуцца навокал, звярнуць увагу на тое, што сапраўды важна: крытычны стан эканомікі, аховы здароўя, адукацыі, сацыяльнай палітыкі?

Бо мы ж не Феміда, каб жыць з завязанымі вачыма.

# Юрый Зісер: Астранамічнымі штрафамі справа БЕЛТА не скончыцца

НЧ

**Усе грошы, на якія дзяржава абрабуе журналістаў і іх сем'і, не кампенсуюць і малой часткі выдаткаў на вядзенне гэтага Кафкіянскага працэсу, лічыць заснавальнік TUT.BY Юрый Зісер.**

Пра гэта заснавальнік і саўладальнік парталу TUT.BY напісаў у сваім фэйсбуку.

«Калі вы вырашылі, што астранамічнымі для журналістаў сумамі кампенсацыі «шкоды» па справе БЕЛТА ўсё скончыцца, — вы наіўныя. Гэта толькі пачатак. Дзяржава яшчэ можа абкласці вялікімі штрафамі, а таксама можа выставіць дзяўчатам кошт экспертыз кампутараў і мабільных тэлефонаў, якія былі адабраныя пры вобшуку. У тым ліку, напрыклад, Золатава заплаціць за экспертызу сынавага ноўтбука, які быў падараваны таму на дзень нараджэння роўна напярэдадні шмону, а таксама трынаццаці канфіскаваных з шафы старых тэлефонаў усёй сям'і, што шмат гадоў не выкарыстоўваліся. Сумы будуць для журналістаў вельмі вялікімі — гэта іх заробак за шмат гадоў наперад: улада са скуры вылазіць, каб прадэманстраваць перад тэлегледачамі БТ (таму што ўсе астатнія ўсё разумеюць) справу сусветнага маштабу, а журналісты — ворагі народа, таму прымусіць іх і іх сем'і «падзяліцца з дзяржавай» — з пункту гледжання любога суда добрая справа.

Зрэшты, усе грошы, на якія дзяржава абрабуе журналістаў і іх сем'і, не кампенсуюць дзяржаве і малой часткі выдаткаў на вядзенне гэтага Кафкіянскага працэсу. А аб фінансавых стратах краіны з-за пагаршэння інвестыцыйнага клімату і казаць не варта. Вось такая эканоміка працэсу на бягучы момант. Зрэшты, дзяржаве не позна страціць яшчэ больш грошай і іміджу ў выпадку прызначэння будучым судом нефінансавых пакаранняў, накшталт умоўных тэрмінаў ці пазбаўлення права на прафесію...

Абвінавачванне па «справе БЕЛТА» было высунутае шасці рэдактарам TUT.BY, галоўнаму рэдактару БелаПАН Ірыне Леўшынай, карэспандэнту БелаПАН Таццяне Каравянковай, карэспандэнту «Deutsche Welle» Паўлюку Быкоўскаму. З дзевяці журналістаў, якіх абвінавачваюць у несанкцыянаваным доступе да кампутарнай інфармацыі, запатрабавалі ў якасці «кампенсацыі» каля 60 тысяч рублёў.

«Мы самі не разумеем, навошта гэта (маецца на ўвазе «справа БЕЛТА». — рэд.). Але відавочна, што гэта — найперш ціск на TUT.BY, якому больш за ўсё дасталася», — адзначыла пасля допыту ў Следчым камітэце Таццяна Каравянкова.

# Супраць празмернай платы за інтэрнаты

**У Магілёве беларускія хрысціянскія дэмакраты пачынаюць збор подпісаў пад калектыўным зваротам у Палату прадстаўнікоў, Савет міністраў і Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі Беларусі ў сувязі з непамерным ростам платы за карыстанне жылымі памяшканнямі дзяржаўнага жыллёвага фонду ў інтэрнатах.**

Узвароце БХД адзначаецца, што з увядзеннем платы за карыстанне жылымі памяшканнямі вясной 2018 года кошт пражывання ў інтэрнатах прадпрыемстваў і арганізацый вырас на 24–96 працэнтаў, пры тым, што заробак працуючых у інтэрнаце маладых спецыялістаў і сем'яў з дзецьмі практычна не змяніўся.

Аўтары звароту адзначаюць, што ў Брэсцкай вобласці, згодна з рашэннем аблвыканкама, аплата за карыстанне жылымі памяшканнямі ў інтэрнаце, разлічаная па ранейшай формуле, будзе множыцца на паніжальны каэфіцыент, роўны 0,2. Гэта значыць, у параўнанні з цяперашняй аплата за карыстанне «квадратамі» паменшыцца прыкладна ў 5 разоў. У той жа час у Магілёўскай і іншых абласцях плата застаецца ранейшай.

Аўтары звароту заяўляюць пра несправядлівасць нераўнамернай платы ў розных рэгіёнах краіны і прапануюць усталяваць паніжальны каэфіцыент, роўны 0,2, у Магілёўскай ды іншых абласцях, а паўнамоцтвы па ўрэгуляванні платы за інтэрнаты ад аблвыканкамаў перадаць Міністэрству антыманапольнага рэгулявання і гандлю, каб зрабіць плату адзінай па краіне і сачыць, каб яна не перавышала аплату за пражыванне ў прыватных кватэрах.

**Паводле bchd.info**

# Аштрафавалі, хоць не быў на месцы парушэння

Дзяніс ІВАШЫН

**Перагляд справы Алеся Чахольскага за нібыта парушэнне ім ПДР не даў выніку: ДАІ працягвае сцвярджаць, што Алесь перашкаджаў руху машын ля «Поедем, поедим», хаця сам ён знаходзіўся ў той час у будынку запраўкі.**

13 лістапада ва УДАІ УУС Мінаблвыканкама адбыўся паўторны разгляд адміністратыўнай справы ў дачыненні Алеся Чахольскага — адказнага сакратара ўправы сойму Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ. Начальнік спецпадраздзялення па забеспячэнні бяспекі дарожнага руху УДАІ Мінаблвыканкама падпалкоўнік міліцыі Яраслаў Жук ухваліў пастанову пра спагнанне з Алеся Чахольскага штрафу паводле арт. 18.23 ч.3 КаАП РБ у памеры 3 базавых велічыняў (73,5 руб.).

Яшчэ 17 чэрвеня супрацоўнікі УДАІ Мінскага аблвыканкама склалі на Алеся Чахольскага пратакол пра адміністратыўнае правапарушэнне — нібыта ён парушыў правілы дарожнага руху ля сумнавядомага рэстарацыйна-забаўляльнага комплексу «Поедем, поедим» побач з Народным мемарыялам Курапаты.

З пратаколу вынікае, што Алесь Чахольскі нібыта 17.06.2018 г. а 16:45 рухаўся па праезнай частцы аўтадарогі ля азначанага забаўляльнага комплексу, сваімі дзеяннямі перашкаджаў руху аўтамабіля, змусіў кіроўцу экстранна тармазіць і змяняць напрамак руху, праз што стварыў аварыйную сітуацыю.

14 жніўня пастанову пра спагнанне штрафу паводле арт. 18.23 ч.3 КаАП РБ у памеры 3 базавых велічыняў ухваліў намеснік начальніка УДАІ УУС Мінаблвыканкама Віктар Ротчанкаў.

Рашэннем суда Фрунзенскага раёна Мінска ад 27 верасня пастанова была скасаваная і накіраваная на паўторны разгляд ва УДАІ УУС Мінаблвыканкама. Падчас судовага пасяджэння Алесь Чахольскі для падмацавання сваёй пазіцыі дадаў фактаалагічны матэрыял з фотаздымкамі і тлумачэннямі. Матэрыялы адназначна сведчаць: Алесь Чахольскі не мог парушыць правілы дарожнага руху, бо ў той час знаходзіўся ў памяшканні АЗС №75, што месціцца за 100 метраў ад рэстарацыі. Апроч гэтага копія пратаколу датавана няслушна: падчас складання дакумента выкарыстаны розныя шрыфты.

У каментары пра судовае рашэнне Алесь Чахольскі зазначае, што ў выніку новага разгляду супрацоўнікі ДАІ меліся спыніць гэтую справу. Ён аргументуе сваю пазіцыю і рашэннем суда Фрунзенскага раёна што да накіравання справы на паўторны разгляд і пастановай начальніка Аддзела УДАІ Фрунзенскага раёна Мінска падпалкоўніка міліцыі Сяргея Дудчыка, які накіраваў справу ва УДАІ Мінскага аблвыканкама для выпраўлення ўсіх выяўленых недахопаў. З вынікам паўторнага разгляду справы Алесь Чахольскі катэгарычна не згодны, пастанову збіраецца абскарджваць. Апроч гэтага ён лічыць, што дзеянні службовых асоб могуць мець адзнакі здзяйснення службовых злачынстваў.

На актывістаў Варты абароны Курапатаў, якія ўжо больш за пяць месяцаў запар патрабуюць спыніць дзейнасць забаўляльна-рэстарацыйнага комплексу «Поедем, поедим», складзена безліч пратаколаў пра адміністратыўныя парушэнні. На гэты момант пакараныя ўжо больш за 60 чалавек, агульная колькасць содняў адміністрацыйнага арышту, да якога былі асуджаныя абаронцы, складае 115 (!), сума штрафаў перавышае 20 000 рублёў.

# Салігорскія мантажнікі і гарнякі нагадалі ўладам пра мараль

**У Салігорску адбылася акцыя пратэсту працаўнікоў прадпрыемстваў «Беларуськалій» і Трэст «Рэммантажбуд».**

Актывісты правялі пікет супраць дзеянняў раённых уладаў, якія не рэгіструюць прафсаюзную арганізацыю мантажнікаў.

Заяўнікам мерапрыемства выступіў Незалежны прафсаюз гарнякоў ААТ «Беларуськалій», сябры якога ў якасці салідарнасці вырашылі падтрымаць сваіх былых калег па вытворчасці. Як паведаміў «Салідарнасці» адзін з удзельнікаў Раман Ярашэня, 13 лістапада ў акцыі прынялі ўдзел каля 70 чалавек.

Як паведамляе belnp.org, тых, хто прыйшоў на стадыён, абшуквалі і правяралі металашукальнікам, усе плакаты і расцяжкі, як і ўдзельнікаў мерапрыемства, фіксавалі на відэакамеры супрацоўнікі МУС.

— Не ўсё ў гэтым свеце вымяраецца матэрыяльнымі каштоўнасцямі, ёсць яшчэ мараль. Калі людзі вызначыліся ў прафсаюзе — дык наймальнік павінен паважаць іх выбар, і райвыканкам мусіць лічыцца з іх выбарам. Мы здолеем адстаяць і абавязкова зарэгіструем першасную арганізацыю, — выступіла на пікеце актывістка НПГ Ірына Зыль.

На плакатах, з якімі неабыякавыя грамадзяне прыйшлі на пікет, было напісана: «Не свавольству чыноўнікаў», «Не парушэнням Канстытуцыі і закона аб прафесійных саюзах», «Патрабуем справядлівасці».

**«Салідарнасць», пераклад НЧ**

# Крыж Памяці і ўдзячнасці

Арцём ЛЯВА

**У Доўску на цвінтарнай зямлі Свята-Пакроўскай царквы адбылося ўрачыстае адкрыццё аднаўленага крыжа Памяці і ўдзячнасці ад украінцаў, якіх мясцовыя жыхары ратавалі ад Галадамору 1932–1933 гадоў.**

Драўляны крыж быў усталяваны ў 2003 годзе да 70-й гадавіны Галадамору, які ўкраінскія ўлады вызнаюць генацыдам украінскага народу. З часам ён прыйшоў у нягоднасць.

Зараз у Доўску ўсталявалі металічны крыж, аздоблены пяццю каласкамі, адзін з якіх надламаны. Гэта алюзія і на сумнавядомы закон «аб пяці каласах», на падставе якога людзей арыштоўвалі і адпраўлялі ў лагеры, і на тое, што ва Украіне загінуў падчас Галадамору кожны пяты жыхар.

У царкве айцец Георгій адслужыў малебен і асвяціў крыж Памяці і ўдзячнасці. Благачынны айцец Аляксій падараваў украінскай дыяспары ў Беларусі ікону Багародзіцы.

На імпрэзе выступілі з прамовамі амбасадар Украіны Ігар Кізім, намеснік старшыні Рагачоўскага райвыканкама Павал Барадзінскі, старшыня ГА «Цэнтр украінскай культуры «Січ» Валянціна Логвін.

Таксама на адкрыцці аднаўленага крыжа былі першы сакратар амбасады Іван Башняк (які ўласна і апекаваўся стварэннем, дастаўкай і ўсталяваннем металічнага крыжа Памяці), старшыня рэспубліканскага аб'яднання ўкраінцаў «Варта», пачэсны старшыня магілёўскага грамадскага аб'яднання ўкраінцаў «Дніпро», наведнікі царквы, дзеткі з нядзельнай школы.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Непатапляльны Сямашка ды пуга для беларусаў

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Уладзімір Сямашка, які адпачываў ад дзяржаўнай службы апошнія два месяцы, прызначаны амбасадарам Беларусі ў Расіі.**



Фота www.liberty-belarus.info

Хтосьці можа палічыць, што быць амбасадарам, маючы досвед працы міністрам энергетыкі ды намеснікам прэм'ер-міністра, — гэта не ўзровень. Калі б гаворка ішла пра якую-небудзь іншую краіну, накшталт Аргенціны ці Швейцарыі, гэта было б праўдай. Але ж калі гаворка пра Расію — цяжка знайсці больш дасведчанага чалавека за Уладзіміра Сямашку. Менавіта ён вёў усе складаныя перамовы з Расіяй па пытаннях паставак нафты і газу.

Пошук новага амбасадара вёўся доўга і дбайна — месца пуставала больш за два месяцы. Кажуць, у верасні Лукашэнку прапаноўвалі некалькі кандыдатур, але ён раскрытыкаваў прапановы і загадаў шукаць далей. Відаць, нікога лепшага не знайшлі і вырашылі звярнуцца да праверанага Сямашкі, якому пасля жнівеньскага звальнення з пасады віцэ-прэм'ера многія прарочылі правесці старасць у якасці звычайнага пенсіянера.

Аднак такімі кадрамі не раскідваюцца — гэта стала відавочна на тэрміновай нарадзе, якую ў верасні пасля вяртання з Сочы правёў Аляксандр Лукашэнка. Тады ў выхадны дзень было склікана амаль 20 топ-чыноўнікаў, а пільныя журналісты разгледзелі на фотаздымках з нарады і Уладзіміра Сямашку, які ў той час не займаў ніякай афіцыйнай пасады. Сам Сямашка ўхваліў сваё прызначэнне амбасадарам — маўляў, не магу сядзець без працы, хоць зубастыя каментатары пачалі сумнявацца, што ў Сямашкі хопіць сілаў і здароўя на такую адказную дзейнасць — усё ж праз год ён будзе адзначаць 70-гадовы юбілей. Зрэшты, яго жаданне і здароўе абсалютна не важныя, калі краіна жыве па прынцыпе «дзяржаўная патрэба».

Пакуль чыноўнікі шукалі лепшага кандыдата для адбівання эканамічных атак з боку «брацкай» Расіі, дэпутаты шукалі новыя спосабы для атакі на грамадзянскую супольнасць. Менавіта так многія расцанілі ўнясенне ў Палату прадстаўнікоў законапраекта, які ўзмоцніць адказнасць за прапаганду нацызму і экстрэмізму. І калі з нацызмам усё больш-менш зразумела, з экстрэмізмам — не.

Калі дэпутаты ўхваляць законапраект, то ў артыкул 17.10 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях будзе ўведзеная адказнасць за прапаганду, публічную дэманстрацыю, выраб і распаўсюджванне сімволікі і атрыбутыкі экстрэмісцкіх і тэрарыстычных арганізацый. Акрамя таго, прадугледжана пакаранне за набыццё ў мэтах распаўсюджвання альбо захоўванне такой сімволікі. Пералік экстрэмісцкіх або тэрарыстычных арганізацый будзе апублікаваны пазней.

Вось тут сапраўдная інтрыга — каго ж залічаць да такіх арганізацый? Калі арыентавацца на тое, каго рэгулярна называюць адмарозкамі ды экстрэмістамі ў дзяржаўных СМІ, — найбольшая верагоднасць, што экстрэмістамі назавуць анархістаў ды нацыянальна арыентаваныя моладзевыя арганізацыі накшталт «Маладога Фронту». А там ужо і да штрафаў за нацыянальныя сцягі недалёка. Хаця, мажліва, грамадзянская супольнасць і дарма панікуе, але прабачым ім — з нашымі «клапатлівымі» дэпутатамі заўжды лепш перастрахавацца.

Не менш цікавай выглядае спроба паставіць пад кантроль прадукцыю замежных СМІ — для гэтага па працэдуры, зацверджанай урадам, адмысловая камісія на чале з першым намеснікам міністра інфармацыі Паўлам Лёгкім будзе праводзіць адмысловую экспертызу. Камісія будзе правяраць, ці не прапагандуюць медыя наркотыкі, вайну, экстрэмісцкую дзейнасць. Навошта, калі падобная прапаганда і так забаронена? Ці будзе лічыцца прапагандай вайны, напрыклад, сюжэт пра беларускіх добраахвотнікаў на Данбасе, выпушчаны Белсатам ці «Радыё Свабодай»? Відавочна ж, пад каго рыюць.

Пра клопат дэпутатаў, дарэчы, — гэта не іронія, як можна было падумаць. Старшыня Палаты прадстаўнікоў Уладзімір Андрэйчанка днямі адкрыў у Віцебску новыя яслі-сад. І ўрачыста абвясціў, што цяпер дэпутаты разглядаюць бюджэт на 2019 год і плануюць выдзеліць на развіццё сацыяльнай сферы на 10–12% больш, чым у папярэднім годзе. Ну ці не клопат гэта пра беларускі народ? Праўда, адкуль возьмуцца сродкі на гэтыя абяцаныя 10–12% — пакуль што няясна. Можа, увядуць новы падатак? Нам не ўпершыню. А яшчэ можна паабяцаць, а пасля забраць (напрыклад, унесці папраўкі ў праект бюджэту) — і гэта нам не ўпершыню.

Верагодна, тая «палітычная вакханалія», як выказаўся Аляксандр Лукашэнка, ужо пачалася — з абяцанкамі-цацанкамі і пернікамі. Пуга, мяркую, таксама не прымусіць сябе чакаць.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Ганна Красуліна



**Да 30 лістапада прэс-сакратар Аб'яднанай грамадзянскай партыі павінна пакінуць тэрыторыю Беларусі.**

Ганна Красуліна — грамадзянка Расіі. Усе яе блізкія жывуць у Беларусі, — бацькі, муж, дзеці. У Расію ёй ехаць няма куды.

Прэтэнзіямі да Ганны Красулінай фармальна стала парушэнне беларускага заканадаўства. Ганна Красуліна паведаміла, што даведалася пра высылку 13 лістапада ў аддзеле па грамадзянстве і міграцыі Маскоўскага раёна Мінска. Там ёй негалосна паведамілі, што рашэнне аб яе дэпартацыі прынятае «на загад зверху». Ва УУС Маскоўскага раёна, куды Красуліну скіравалі пасля, ёй зачыталі дакумент, паводле якога «2.11.2018 на адрас Маскоўскага РУУС паступіла паведамленне за нумарам 916 ДСП».

Паводле звестак Міністэрства ўнутраных спраў, якія прыводзяцца ў дакуменце, прычынай для дэпартацыі сталі адміністрацыйныя правапарушэнні:

— 2016 год — дазволены пікет па зборы подпісаў падчас выбарчай кампаніі;

— 2017 год — несанкцыяванае масавае мерапрыемства, калі Красуліна сустракала з ізалятару затрыманых пасля Дня Волі – 2017 года. Штраф за «несанкцыяваную акцыю» Красуліна сплаціла своечасова;

— сакавік 2018 года — сплачаны на месцы штраф за неаплачаны праезд у грамадскім транспарце.

«Указаныя абставіны, у адпаведнасці з ч. 1 артыкула 65 Закона «Аб прававым становішчы замежных грамадзян і асоб без грамадзянства ў Рэспубліцы Беларусь», ёсць падставай для прыняцця ў адносінах да Красулінай рашэння пра высылку «ў інтарэсах грамадскага парадку», — гаварылася ў лісце.

Прадстаўнікі АГП і сама Ганна Красуліна заявілі, што будуць аспрэчваць гэтае рашэнне ў судзе.

## Ігар Лучанок



**Вядомы беларускі кампазітар, народны артыст Беларусі і СССР адышоў у лепшы свет.**

Ігар Лучанок быў шпіталізаваны з інсультам у Гарадскую клінічную бальніцу хуткай медыцынскай дапамогі. Некалькі дзён ён знаходзіўся ў цяжкім стане.

Ігар Міхайлавіч Лучанок нарадзіўся 6 жніўня 1938 года. Маці Лучанка была настаўніцай хіміі і біялогіі, а потым і дырэктарам вячэрняй школы. Бацька кампазітара працаваў лекарам.

Лучанок пісаў музыку ў розных жанрах — вольна-сімфанічным, камерна-інструментальным, камерна-вакальным, але найбольш плённа — у песенным.

Песні на музыку Ігара Лучанка выконвалі «Песняры», «Сябры», «Верасы», Іосіф Кабзон, Сафія Ратару, Валянціна Талкунова, Леў Лешчанка, Эдуард Хіль і многія іншыя.

Ён напісаў музыку на вершы Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Рыгора Барадуліна, Яўгена Еўтушэнкі, Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанкі, Генадзя Бураўкіна.

## Генадзь Фядыніч



**Незалежныя прафсаюзы рыхтуюць скаргу ў Міжнародную арганізацыю працы (МАП).**

Прычынай сталі шматлікія парушэнні правоў прафсаюзаў, якія ўваходзяць у склад Беларускага Кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў. Апошняй кропляй стаў прысуд па «справе прафсаюзаў». Савет БКДП нават запрашае экспертаў маскоўскага бюро МАП, якія дапамогуць падрыхтаваць скаргу.

Калегія Мінскага гарсуда 9 лістапада пакінула ў сіле прысуд па «справе прафсаюзаў». 24 жніўня 2018 года суддзя Савецкага раёна Мінска Марына Фёдарава прызнала кіраўнікоў прафсаюза РЭП Генадзя Фядыніча і Ігара Комліка вінаватымі ва ўхіленні ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры.

Фядыніч і Комлік не прызнаюць сябе вінаватымі.

«Правы незалежных прафсаюзаў у Беларусі парушаюцца не першы год. Гэта датычыцца ўсіх незалежных прафсаюзаў, якія ўваходзяць у склад БКДП: Беларускага незалежнага прафсаюза, Свабоднага прафсаюза металістаў, Свабоднага прафсаюза Беларускага і РЭП, — адзначае лідар прафсаюза РЭП Генадзь Фядыніч. — Апагеем гэтага пераследу стала так званая «справа прафсаюзаў». Савет Кангрэса прыняў рашэнне запрасіць экспертаў МАП з Масквы, якія дапамогуць падрыхтаваць скаргу ў МАП у сувязі з парушэннем правоў незалежных прафсаюзаў. Справа ў тым, што беларускія ўлады на працягу многіх гадоў не выконваюць рэкамендацыі МАП».

а | Азбука паліталогіі

# Галасаванне нагамі

**Колькі ні вымаўляй абрэвіятуру БРСМ, а каля 70% моладзі дэкларуюць сваю гатоўнасць выехаць на ПМЖ з Беларусі.**



Сяргей НІКАЛЮК

Якая яна, сучасная Беларусь? Для кагосьці таталітарная, для кагосьці аўтарытарная, а для кагосьці і дэмакратычная. Для кожнага свая, што неаднаразова і пацвярджалі апытанні НІСЭПД.

У верасні 2015 года з тым, што палітычнае жыццё ў Беларусі развіваецца ў накірунку дэмакратыі, былі згодныя 27% рэспандэнтаў (глядзі табліцу). Натуральна, працэнт такіх адказаў сярод прыхільнікаў і апанентаў адзінага палітыка (АП) адрозніваўся на карысць прыхільнікаў, і адрозніваўся значна — 48% vs. 6%.

Але ў цэлым размеркаванне адказаў на пытанне «У якім напрамку цяпер развіваецца палітычнае жыццё Беларусі?» апынулася на дзіва раўнамерным. Вось якое тлумачэнне гэтаму факту я здолеў знайсці на сайце НІСЭПД: «Такая асаблівасць рэжыму імітацыйнай дэмакратыі. Для тых, хто не можа ці не жадае заўважаць яго імітацыйную прыроду, рэжым паўстае сваім дэмакратычным бокам. Для грамадзян жа, што здольныя да рэфлексіі, станаўленне аўтарытарызму і дыктатуры відавочнае».

### Чытайце Хаека

Сучаснай дэмакратыі не бывае без выбараў, а беларусы любяць галасаваць, што пацвярджаецца высокімі, паводле еўрапейскіх мерак, паказчыкамі яўкі (гаворка, зразумела, ідзе не пра афіцыйныя дадзеныя ЦВК).

Але разам са стандартнай працэдурай галасавання апошнім часам усё большай папулярнасцю карыстаецца так званае «галасаванне нагамі». У чарговы раз звярнуся па дапамогу да Вікіпедыі: «Галасаваць нагамі — палітычнае клішэ, што апісвае адну з формаў зваротнай сувязі паміж кіраванымі і кіраўнікамі. Галасаванне нагамі часта адбываецца, калі звычайны выбарчы працэс парушаны. Галасаванне нагамі можа азначаць як фактычнае перамяшчэнне насельніцтва з непасяховай тэрыторыі ў больш спрыяльную, так і фігуральнае перамяшчэнне, як, напрыклад, адмаўленне ад сяброўства ў якой-небудзь арганізацыі або палітычнай партыі».

Зноў звернемся да дадзеных НІСЭПД. У сакавіку 2016 года пра сваю гатоўнасць пераехаць у іншую краіну на пастаяннае месца жыхарства — гэта значыць перамясціцца на больш спрыяльную тэрыторыю — заявілі 42% беларусаў, а сярод моладзі ва ўзросце 18–29 гадоў — 71% (13% сярод тых, каму 60 гадоў і больш).

І з такой трывожнай сацыялогіяй быў вымушаны змірыцца АП. У прыватнасці, 29 кастрычніка на сустрэчы з актывам БРСМ ён канстатаваў, што «ідзе барацьба за моладзь, якой трэба будзе жыць і працаваць не толькі ў Беларусі, але, магчыма, і за мяжой». Такая рэальнасць. І ўсё, што сёння АП змог ёй супрацьпаставіць, — гэта пажадаць будучым эмігрантам «не губляць свае карані».

У нас любяць разважаць пра «жорсткую барацьбу за рэсурсы ў свеце» — і блытаць тым самым канкурэнцыю з адкрытым супрацьстаяннем. Але калі ўсе формы супрацьстаяння (асабліва ваеннае) блакуюць развіццё, то канкурэнцыя з'яўляецца абавязковай яго ўмовай.

Канкурэнцыя на макраўзроўні больш эфектыўная за супрацоўніцтва. Прынцыпы ўладкавання сямейнага жыцця не варта блытаць з прынцыпамі арганізацыі сумеснага пражывання ў маштабах дзяржаў. «Канкурэнцыя, — падкрэсліваў нобелеўскі лаўрэат Фрыдрых Хаек, — уяўляе сабой працэдуру адкрыцця, пазнавання новага — працэдуру, уласцівую эвалюцыі ва ўсіх яе формах, якая прымушае чалавека міжволі ўпісвацца ў новыя сітуацыі. І менавіта за кошт канкурэнцыі, што нарастае, а не за кошт салідарнасці, паступова павышаецца наша эфектыўнасць».

Тут варта прыгадаць рэгулярныя прапановы АП свайму расійскаму калегу пазбягаць дублявання вытворчасцяў у рамках Саюзнай дзяржавы. І справа тут не ў тым, што яго дарадцы не чыталі Хаека. Прычына глыбейшая. Яна ў самой прыродзе «беларускай мадэлі», не здольнай узнаўляцца ў канкурэнтным асяроддзі.

Унутры «беларускай мадэлі» эканамічная канкурэнцыя вось ужо чвэрць стагоддзя ўтрымліваецца на мінімальным узроўні. Што тычыцца канкурэнцыі палітычнай, дык невыпадкова ж кіраўнік дзяржавы сам сабе надаў тытул «Адзіны палітык». І ён мае рацыю. Не родзіць беларуская зямля палітыкаў. Касманаўтаў — калі ласка. Нездарма ж аўтар «Азбукі паліталогіі» пражыў дваццаць гадоў на вуліцы Касманаўтаў у Малінаўцы.

### Абутак фабрыкі «Скараход» як пагроза

Культура — небіялагічны спосаб рашэння агульнабіялагічных праблемаў. Галоўная агульнабіялагічная праблема — не таямніца. Усё жывое імкнецца... выжыць. І рэалізоўваць гэта імкненне даводзіцца ва ўмовах канкурэнцыі. Але там, дзе існуе рэальная канкурэнцыя, абавязкова будуць пераможцы і пераможаныя.

Пераможаныя сыходзяць з гістарычнай арэны. І тут не істотна, ці ідзе гаворка пра інфузорыю ці праваслаўную Візантыю, што не вытрымала канкурэнцыі з ісламскім светам.

Сёння тэма ваеннага супрацьстаяння зноў выходзіць у шэраг топавых. Абмяжуюся толькі адным падзагалоўкам артыкула, запазычаным на сайце belaruspartisan.by: «Беларусь імкнецца пераканаць ЗША не нарошчваць вайсковую прысутнасць у рэгіёне не таму, што гэта нясе нейкую небяспеку для нашай краіны, а таму, што гэта аслабіць перамоўныя пазіцыі Мінска ў адносінах з Крамлём у пытанні размяшчэння расійскай базы ў Беларусі».

Тыя, хто сочыць за палітычнымі падзеямі, сёння вымушаныя пастаянна папаўняць свой лексікон, інакш нават у публіцыстыцы, разлічанай на масавага чытача, не разабрацца. Адзін з апошніх неалагізмаў (слова або словазлучэнне, што нядаўна з'явілася ў мове) — «форт Трампа». Вось пагроза, дык пагроза! Тут ёсць пра што паразважаць спецыялістам па аналізу міжнародных адносін.

Не варта, аднак, думаць, што перавагі адной культуры над іншай вызначаецца выключна праз характарыстыку сістэм узбраенняў. Тое, што вызначала ход гісторыі ў мінулым, страціла актуальнасць у наш час. Прыгадаем карціну Васіля Сурыкава «Заваяванне Сібіры Ермаком». Стрэльбы супраць лукаў. Чым заканчвалася іх супрацьстаянне — добра вядома. Але сёння на змену «жорсткай сіле» прыйшла «мяккая сіла». Савецкі Саюз развaліўся не таму, што браня яго танкаў была недастаткова моцная, а таму, што абутак фабрыкі «Скараход» па сваіх спажывецкіх якасцях не змог канкураваць не толькі з італьянскімі аналагамі, але нават з югаслаўскімі.




**Разам са стандартнай працэдурай галасавання апошнім часам усё большай папулярнасцю карыстаецца так званае «галасаванне нагамі». Галасаванне нагамі часта адбываецца, калі звычайны выбарчы працэс парушаны**

Калі з задачай абароны савецкіх вытворцаў тавараў народнага спажывання ад імпарту «жалезная заслона» адносна нядрэнна спраўлялася, дык абараніць савецкіх спажыўцоў ад жаданняў набыць «фірму» яна была не ў стане. «Мяккая сіла» таму і называецца мяккай, што здольная пратачыцца праз краты і кантрольна-следавыя палосы.

### Выдатнае выказванне

Адкрыем «Статыстычны штогоднік 2018». У 2010 годзе з Беларусі ў краіны па-за межамі СНД выбыла 1826 чалавек, а ў 2017 годзе — 5526 чалавек. Пры трохразовым росце абсалютная колькасць выбыўшых застаецца нязначнай і надвор'я, што называецца, не робіць. Але наколькі афіцыйная статыстыка адлюстроўвае іміграцыйную рэальнасць?

Канкрэтна па іміграцыі ў ЗША за пазначаны вышэй перыяд колькасць выбыўшых склала, адпаведна, 221 і 325 чалавек. Але ж у 2016 годзе толькі па выніках латарэі «Грын кард» беларусам было выдадзена 1466 візаў (у апошнім сказе ключавым з'яўляецца слова «толькі»).

Аматарам разважаць пра знешнія пагрозы, і ў першую чаргу пра пагрозы з боку Расіі, хочацца нагадаць пра тое, што 31 кастрычніка прэзідэнт РФ Уладзімір Пуцін падпісаў указ «Аб Канцэпцыі дзяржаўнай міграцыйнай палітыкі Расійскай Федэрацыі на 2019–2025 гады». Канцэпцыя значна спрашчае працэдуры атрымання грамадзянства РФ. Пры гэтым асобным пунктам агаворваюцца льготы для «замежных грамадзян, якія з'яўляюцца носьбітамі рускай мовы». А такімі, як нескладана здагадацца, з'яўляюцца практычна ўсе грамадзяне Беларусі.

Прэтэндаваць на ролю крыніцы «мяккай сілы» Пуцінская Расія не можа. Але гэта калі ацэньваць яе патэнцыял з Еўропы і ЗША. А калі з Паўночнай Карэі, з былых савецкіх сярэднеазіяцкіх рэспублік і з Беларусі?

Далёка не адны алігархі і чыноўнікі кормяцца ў Расіі з прыроднай рэнты. Сёе-тое застаецца і шараговым працаўнікам, таму канкураваць у гонцы заробкаў з сузаснавальніцай Саюзнай дзяржавы Беларусь не ў стане.

У Палацы Незалежнасці гэта выдатна разумеюць. Нездарма ж яшчэ ў траўні 2001 года на другім Усебеларускім народным сходзе галоўная асцярога з нагоды захавання дзяржаўнага суверэнітэту была афармленая ў выдатнае выказванне АП: «Нельга не прызнаць справядлівасць ісціны аб тым, што маленькая зарплата здольная разбурыць нават самую моцную дзяржаву». А ўжо слабую — і пагатоў.

**«У ЯКІМ НАПРАМКУ ЦЯПЕР РАЗВІВАЕЦЦА ПАЛІТЫЧНАЕ ЖЫЦЦЁ БЕЛАРУСІ?»**

| Варыянт адказу | % |
|---|---|
| Развіццё дэмакратыі | 27 |
| Аднаўленне ранейшых савецкіх парадкаў | 22 |
| Станаўленне аўтарытарызму, дыктатуры | 22 |
| Нарастанне хаосу, анархіі, пагрозы дзяржаўнага перавароту | 13 |
| Цяжка адказаць/ Няма адказу | 16 |

# «Гулялі ў тым жоўтым пясочку...»

Дзяніс ІВАШЫН

**Успаміны Ніны Банцар, як і іншых сведак злачынстваў сталінскага рэжыму, маюць вялікае значэнне. Яны агаляюць цэлы пласт антычалавечых дзеянняў таталітарнай савецкай дзяржавы па масавым знішчэнні людзей, якое адбывалася ў гіганцкіх маштабах. Таму крытычна важна захоўваць і задакументоўваць жывую памяць.**



Ігар Банцар



Фотаздымак з сямейнага архіву Ігара Банцара

З моманту адкрыцця праўды пра Курапаты ў 1988 годзе ў публікацыі артыкулу Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва «Курапаты — дарога смерці» былі праведзеныя тры дзяржаўныя камісіі, якія факталагічна пацвердзілі, што масавыя расстрэлы ў гэтым урочышчы здзяйсняліся з 1930-х па 1941 год. Вельмі важным пры гэтым было і застаецца збіранне вусных сведчанняў відавочцаў гэтых расстрэлаў — базісу, на якім сёння грунтуецца асноўная доказная інфармацыя.

Усе астатнія дадзеныя (перадусім, дакументальная частка), пэўна, збольшага знішчаная. Пра гэта сведчаць адказы ўпраўленняў КДБ з 1980-х гадоў пра адсутнасць дадзеных пра месцы расстрэлаў. Ацалелая інфармацыя, меркавана, утрымліваецца ў фондасховішчах цэнтральнага архіву і архіваў абласных упраўленняў КДБ Беларусі.



Ніна Архіпаўна Банцар (у дзявоцтве Бацян)

Ніна Банцар нарадзілася ў 1925 годзе ў вёсцы Цна-Ёдкава, што знаходзілася літаральна за кіламетр ад расстрэльнага курапацкага лесу. Сведчанні перадаў яе ўнук — Ігар Канстанцінавіч Банцар — гродзенскі грамадскі актывіст, сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыі.

«Мая бабуля, Ніна Архіпаўна Банцар, у дзявоцтве Бацян, нарадзілася ў 1925 годзе ў вёсцы Цна-Ёдкава Сляпянскага сельсавета Мінскага раёна, цяпер гэтая тэрыторыя ўваходзіць у склад Мінска.

Яна жыла ў гэтай вёсцы разам з бацькамі да вайны і падчас вайны. У 1944 годзе, пасля вызвалення Мінска Чырвонай Арміяй, бабуля вырашыла пайсці навучацца на медсястру. Курсы медсёстраў скончыла пры мінскім абласным камітэце Чырвонага Крыжу ў красавіку 1945 года.

Яе рыхтавалі на фронт, аднак вайна скончылася, і яна па размеркаванні была накіраваная ў Брэсцкую вобласць. Пасля была пераведзеная ў Ваўкавыск, дзе да 1949 года працавала медсястрой у лагеры нямецкіх ваеннапалонных. Гэты лагер знаходзіўся побач з заводам «Металіст». Там жа яна пазнаёмілася з маім дзедам, Канстанцінам Банцарам — карэнным ваўкавычанінам, з якім у лютым 1949 года пашлюбавалася».

Ігар паказвае пажоўклае пасведчанне пра шлюб, у якім можна выразна пабачыць запіс пра месца нараджэння Ніны Банцар — вёска Цна-Ёдкава.

Ніна Бацян — ужо Банцар — працягвала працаваць у сістэме аховы здароўя да выхаду на пенсію.

«Ніна Архіпаўна пайшла з жыцця ў 1996 годзе. Я захоўваю яе вусцішныя ўспаміны пра расстрэльны лес, пра Курапаты, — Ігар Банцар не хавае хвалявання. — Вёска Цна-Ёдкава знаходзілася непадалёк ад месца, дзе непасрэдна адбываліся расстрэлы. Бабуля распавядала, што ў 1937 годзе, калі ёй было 12 гадоў, яна разам з іншымі дзецьмі ўдзень прабіралася за высокі плот, дзе расстрэльвалі людзей. Яны адшуквалі там гільзы, траплялiся нават гузікі ад адзення. Ахова іх ганяла, каб не адкапалі раптоўна трупы. Бацькі разумелі, што там адбываецца, і сувора забаранялі дзецям набліжацца да гэтага месца. Аднак гэта ж дзеці, што ім забароніш? Усё адно пралезуць. Але самае страшэннае ў яе расповедах: расстрэльвалі нагэтулькі часта, што ўначы дзеці засыналі пад гукі стрэлаў, гэта для іх сталася абсалютна нармальным. Ніна Архіпаўна распавядала, што, наадварот, калі не стралялі, то гэта было нешта незвычайнае, дзіўнае, узнікала пытанне: «Чаму няма стральбы?». Гэта жахліва насамрэч. Яны не разумелі, што адбываецца, гэта ж колькі трэба расстраляць чалавек дзеля таго, каб жыхары навакольных вёсак успрымалі расстрэлы як нармальную з'яву, а калі наступала цішыня — што нешта было не так?» — эмоцыі захлынаюць Ігара.

«Расстрэлы адбываліся на працягу чатырох гадоў. Хаця гэта і гучыць жахліва, але людзі прызвычайваліся да расстрэлаў паблізу. Бабуля казала, што канвеер смерці працаваў бездакорна. «Варанкі» прыязджалі і нязменна вярталіся ў Мінск за новай партыяй тых, каму была наканаваная



Ніна Архіпаўна Банцар, фота з сямейнага архіву Ігара Банцара



ПАСВЕДЧАННЕ АБ ШЛЮБЕ
СВИДЕТЕЛЬСТВО О БРАКЕ

ПЯ № 314106

Банцер Константин Константинович
1924
гор. Волковыск Гродненская обл.
Ботян Нина Архиповна
1925
д. Цна-Иодкова Слепянский с/с Минский р-н Минской обл.
двенадцатого февраля тысяча девятьсот сорок девятого год. (12/II-1949 г.)
1949 года февраля месяца 12 числа
№ 29

мужу Банцер жене Банцер
Волковыское бюро ЗАГС г. Волковыск Гродненская обл. БССР
12 февраля 1949 г.

Пасведчанне пра шлюб Ніны Бацян з Канстанцінам Банцарам, 12.02.1949 г.





Пасведчанне аб узнагароджанні медалём «Ветэран працы»

смерць. Яна выразна памятала, як прыязджалі гэтыя машыны. Размовы пра гэта не віталіся — бацькі наогул забаранялі казаць штосьці на гэты конт, бо, як яна ўзгадвала, «сёння ты нагаворыш, а заўтра «варанок» можа завярнуць і да цябе». Жылі ў суцэльным страху».

«Я мяркую, пераломам у бабулі пачаўся тады, калі адбылося развенчванне культу Сталіна, калі пачалася палітычная амністыя. Яна ўсведамляла, што так званых «ворагаў народу» расстрэльвалі проста так, ні за што. Савецкіх людзей пераконвалі, што забіваюць ворагаў, — і што ў выніку выходзіць? Паўсюдна адны ворагі? У яе як чалавека, які штодня бачыў расстрэлы ў Курапатах, паўставала заканамернае пытанне: «Колькі ж іх там проста так расстраляных?»

Падчас свайго расповеду Ігар Банцар закранае і тэму пабудовы рэстарацыйна-забаўляльнага комплексу «Поедем, поедим» у ахоўнай зоне мемарыялу Курапаты:

«Я б вельмі хацеў, каб людзі, якія прыязджаюць у сумнавядомы кабак, паразмаўлялі са сведкамі расстрэлаў. Шкада, што іх практычна не засталося. Яны б распавялі ім, як за ноч расстрэльвалі і засыпалі яміны з забітымі людзьмі, як потым там у жоўтым пясочку гуляліся дзеці, бо там быў стала выкапаны грунт, якім засыпалі свежыя магілы. Калі-небудзь надыдуць часы, калі будзе праведзеная эксгумацыя і зроблены параўнаўчы аналіз ДНК усіх, хто ляжыць зараз у Курапатах».

Нават вусныя сведчанні маюць асаблівае значэнне для кадыфікацыі гістарычнай памяці пра адну з самых страшэнных старонак мінулага нашага народа. Захаванне гістарычнай памяці наўпрост спрычыняецца да забеспячэння існавання нацыі ў будучыні і абароны яе ад вяртання ў таталітарнае мінулае. Гэта жыццёва неабходна ва ўмовах забароны на атрыманне і перадачу інфармацыі пра масавыя расстрэлы 1930–1940 гадоў з фондасховішчаў КДБ.

# Сакрэт Івана Ціцянкова

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Іван Ціцянкоў назаўжды ўвайшоў у гісторыю як чалавек, які публічна разадраў дзяржаўны бел-чырвона-белы сцяг і распісаўся на кавалках. Лукашэнкаўскі «заўгас» 5 лістапада адзначыў 65-годдзе. Чым не нагода прыгадаць іншыя цікавыя факты з яго мінулага.**

З снежня 1999 года краіну ўскалыхнула сенсацыйная навіна: паводле прэзідэнцкага ўказа № 714, у адстаўку пайшоў кіраўнік справамі прэзідэнта Іван Цацанка. І хаця ва ўказе прысутнічала фармулёўка «по собственному желанию», было зразумела, што з такіх пасадаў па ўласнай волі сыходзяць раз на сто гадоў. Грамадскасць была здзіўлена: як, за што? Канешне, ведамства Ціцянкова ў апошнія часы трэслі скандалы, аднак пазіцыі заўгаса здаваліся непахіснымі. І вось...



Іван Ціцянкоў на пахаванні Міхаіла Марыніча, кастрычнік 2014 года. Фота nn.by

## Шлях наверх

Іван Ціцянкоў прарваўся ў вялікую палітыку, як і ягоны будучы патрон Аляксандр Лукашэнка, дзякуючы выбарам у Вярхоўны Савет БССР у сакавіку 1990 года. На той момант Ціцянкоў займаў пасаду першага сакратара Краснапольскага райкама КПБ. Ураджэнец вёскі Кляявічы Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці, Ціцянкоў у 1973 годзе скончыў Клімавіцкі саўгас-тэхнікум «Дуброва» і пэўны час працаваў заатэхнікам у гэтым рэгіёне. У 1981 годзе Ціцянкоў істотна падвысіў свой адукацыйны ўзровень: скончыў знакамітую Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію ў Горках па спецыяльнасці зоаінжынер.

З 1977 па 1986 гады працаваў дырэктарам саўгаса «Каўгарскі» Асіповіцкага раёна і першым намеснікам старшыні ўпраўлення сельскай гаспадаркі Асіповіцкага раёна.

З 1986 года Ціцянкоў — на партыйнай працы: намеснік загадчыка аддзела сельскай гаспадаркі і харчовай прамысловасці Магілёўскага абкама партыі, а ў 1988 годзе ўзначальвае Краснаполле.

Кандыдатам у народныя дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР 12 склікання Ціцянкоў вылучаўся па Краснапольскай выбарчай акрузе №300. Акрамя Івана на запаветны дэпутацкі мандат прэтэндавалі яшчэ два чалавекі. Фаварытам гонкі лічыўся непасрэдны начальнік Ціцянкова — сакратар Магілёўскага абкама партыі **Мікалай Парніцкі,** які быў старэйшы за Ціцянкова амаль на дваццаць гадоў. Да кампаніі таксама далучыўся **Уладзімір Панасенка** — старшыня калгаса імя Валадарскага Краснапольскага раёна. Аднак Панасенка неўзабаве зняў сваю кандыдатуру, што сведчыла пра адміністратыўны рэсурс на карысць Парніцкага.

У ходзе перадвыбарчай барацьбы Ціцянкоў удала эксплуатаваў чарнобыльскую праблему. Асноўны напрамак яго праграмы палягаў у адсяленні насельніцтва раёна ў экалагічна чыстыя зоны Магілёўскай вобласці і Беларусі ў цэлым. Ціцянкоў крытыкаваў рэспубліканскія ўлады за невыкананне сумеснай пастановы ЦК КПБ і Савета Міністраў ад 7 снежня 1990 года «Аб неадкладных мерах па паскарэнні рэалізацыі Дзяржаўнай праграмы па ліквідацыі ў Беларускай ССР вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС у частцы перасялення і працаўладкавання насельніцтва». Іван Ціцянкоў прапанаваў для тых часоў сапраўды рэвалюцыйны ход: адсяленне з радыеактыўнай зоны сем'яў з дзецьмі не толькі да 14 гадоў, а наогул школьнага ўзросту.

У канцы лютага (за некалькі дзён да выбараў) Ціцянкоў разам з калегамі — старшынямі абкамаў КПБ Слаўгарадскага і Чэрыкаўскага раёнаў сустрэўся з першым сакратаром Камуністычнай партыі Беларусі Яфрэмам Сакаловым. Размова ішла пра перасяленне людзей з забруджаных зонаў і пра востры недахоп у тых рэгіёнах медыкаў, настаўнікаў, работнікаў сацыяльнай сферы.

На выбарах у Вярхоўны Савет Беларусі 12 склікання перамога Ціцянкова была трыумфальнай: з 21 083 выбаршчыкаў, якія ўзялі ўдзел у галасаванні, Івана падтрымалі 16 850. Парніцкі атрымаў сапраўдны мізэр — 1675 галасоў.

У чым быў сакрэт Ціцянкова? Яго раскрыла мясцовая жыхарка, пенсіянерка Соф'я Ільінічна Дуброўская: «Асабіста мяне Іван Іванавіч падкупяе сваёй прастатой, якую рэдка можна цяпер сустрэць. Ён умее знайсці з кожным чалавекам агульную мову, наладзіць і арганізаваць любую справу. З ім можна пагаварыць і параіцца па любым пытанні».

Калі Ціцянкоў пры Лукашэнку стаў магутным чалавекам, гэтыя «якасці» спатрэбіліся яму на ўсе сто працэнтаў.



Заўсёды разам. Іван Ціцянкоў за спіной Аляксандра Лукашэнкі. Фота: «Свабода», 1997 год

## У Вярхоўным Савеце

Стаўшы дэпутатам, Ціцянкоў развітаўся з ужо бесперспектыўнай партыйнай працай і перайшоў на пастаянную аснову ў Вярхоўны Савет. 27 ліпеня 1990 года пастановай Вярхоўнага Савета Ціцянкоў быў зацверджаны сакратаром камісіі па праблемах наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

Адначасова з будучымі паплечнікамі Лукашэнкі Леанідам Сініцыным і Віктарам Шэйманам Ціцянкоў стаў чальцом часовай камісіі Вярхоўнага Савета па прывілеях.

Паводле пастановы ВС ад 23 ліпеня 1990 года «О Временном положении об обеспечении деятельности народных депутатов Республики Беларусь», Ціцянкоў у якасці сакратара камісіі мусіў атрымліваць 1400 рублёў. Згодна з пунктам 13 пастановы («народному депутату БССР, освобожденному от выполнения производственных или служебных обязанностей в связи с работой в Верховном Совете БССР, не имеющему постоянного места жительства в Минске, предоставляется жилая площадь на всю семью в Минске»), Іван атрымаў чатырохпакаёвую кватэру ў Мінску па вуліцы Камуністычная агульнай плошчай 94,9 квадратных метра і ўехаў туды з усім сваім сямействам: жонка, два сыны, маці жонкі. У 1993 годзе Іван Ціцянкоў выкупіў кватэру і канчаткова стаў сталічным жыхаром.

У Вярхоўным Савеце Ціцянкоў завёў блізкае сяброўства з дэпутатам Аляксандрам Лукашэнкам і актыўна яго падтрымліваў. Так, 18 верасня 1991 года Лукашэнка балатаваўся ў якасці прадстаўніка ад Вярхоўнага Савета БССР у Вярхоўны Савет СССР, аднак яго кандыдатуру падтрымаў толькі 161 дэпутат.

Між іншым, калегі Лукашэнкі дэманстравалі лепшыя вынікі: напрыклад, будучы старшыня Дзяржкантролю Зянон Ломаць атрымаў 200 галасоў. Тады падняўся Ціцянкоў і прапанаваў перагаласаваць за Лукашэнку, бо той быццам бы быў «большим специалистом в экономике». Аднак дэпутаты праігнаравалі прапанову Ціцянкова. Пры паўторным галасаванні Лукашэнка атрымаў яшчэ меншую колькасць галасоў — 147. Будучы беларускі кіраўнік сам зняў сваю кандыдатуру, каб яе «не полоскали десять раз».

Аднак 4 чэрвеня 1993 года, калі Лукашэнка балатаваўся на пасаду старшыні часовай камісіі Вярхоўнага Савета па вывучэнні дзейнасці камерцыйных структураў пры рэспубліканскіх і мясцовых органах улады і кіравання, Ціцянкоў прагаласаваў супраць свайго будучага патрона.

Іван, магчыма, лічыў, што стварэнне такой камісіі — правакацыя. Але Лукашэнка змог надаць камісіі прынцыповы характар. Ціцянкоў са здзіўленнем назіраў, як малады дэпутат смела выступае супраць Шушкевіча — Кебіча, заклікае да барацьбы з карупцыяй і аднаўлення СССР. Ціцянкоў нутром адчуў патэнцыял Лукашэнкі і пайшоў з ім да канца.

Менавіта Ціцянкоў у сваім «мерседэсе» 1980 года выпуску

**На выбарах у Вярхоўны Савет Беларусі 12 склікання перамога Ціцянкова была трыумфальнай: з 21083 выбаршчыкаў, якія ўзялі ўдзел у галасаванні, Івана падтрымалі 16850. Парніцкі атрымаў сапраўдны мізэр — 1675 галасоў**

вёз кандыдата ў прэзідэнты Лукашэнку ў чэрвені 1994 года пад Ліёзна, калі па аўтамабілі адбыўся стрэл.

Што да свайго дэпутацтва, то Ціцянкоў на першых часах спрабаваў эксплуатаваць чарнобыльскую праблему. Нешматлікія прамовы Івана амаль цалкам прысвечаны Чарнобылю. У чэрвені 1990 года Ціцянкоў, выступаючы на пасяджэнні сесіі Вярхоўнага Савета, раскрытыкаваў рэспубліканскае і мясцовае кіраўніцтва за шкодную палітыку дэзактывацыі забруджаных земляў, калі ў іх уліваліся мінеральныя ўгнаенні. Іван з болем казаў, што гэта не гарантавала ад радыяцыі, а больш за тое: гэтыя элементы ўмацавалі адзін аднаго.

Трэба аддаць належнае Ціцянкову: у першыя гады дэпутацкай дзейнасці ён клапаціўся аб роднай Краснапольшчыне, наракаў на дэфіцыт медыкаў,



Аляксандр Лукашэнка і Іван Ціцянкоў (крайні злева) частуюць мінчукоў блінамі ля Палаца спорту. Фота: «Свабода», 1996 год



Жыццё ўдалося! Ціцянкоў за стырном аўтамабіля не хавае свайго задавальнення. Фота: «Свабода», 1996 год. Паводле маскоўскай прэсы, Ціцянкоў слыў «банальным воришкой», аднак забойцам ён не быў



Не для друку

Указ
Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь

3 снежня 1994 г. № 233

г. Мінск

АБ СТВАРЭННІ СУМЕСНАГА БЕЛАРУСКА-ТУРЭЦКАГА ПРАДПРЫЕМСТВА — АКЦЫЯНЕРНАГА ТАВАРЫСТВА

З мэтай завяршэння будаўніцтва ў адпаведнасці з міжнароднымі патрабаваннямі цэнтра камерцыйных сувязей з гасцінічным комплексам па праспекце Машэрава ў г. Мінску, забеспячэння яго эфектыўнай эксплуатацыі і ў сувязі з недахопам валютных сродкаў:

1. Міністэрству па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі сумесна з зацікаўленымі арганізацыямі і ўстановамі, вызначанымі Кіраўніцтвам справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, ва ўстаноўленым парадку выступіць заснавальнікамі сумеснага беларуска-турэцкага прадпрыемства — акцыянернага таварыства (з удзелам турэцкай фірмы «Энка») з роўнымі долямі гэтых бакоў у яго статутным фондзе з улікам вартасці аб'екта незавершанага будаўніцтва — цэнтра камерцыйных сувязей з гасцінічным комплексам на момант зацвярджэння статута прадпрыемства.

Міністэрству экановікі і Міністэрству фінансаў прадугледзець у праекце Эканамічнай праграмы Урада на 1995—1996 гады выдзяленне Кіраўніцтву справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь сродкаў на завяршэнне будаўніцтва названага цэнтра, зыходзячы з долі затрат беларускага боку ў суме 14 млн. долараў ЗША па курсу Нацыянальнага банка на момант выдзялення гэтых сродкаў.

В дело

Копія сакрэтнага ўказу Лукашэнкі аб стварэнні сумеснага беларуска-турэцкага прадпрыемства

настаўнікаў і іншых спецыялістаў у рэгіёне.

Аднак роля парламенцкага Дон Кіхота хутка надакучыла Ціцянкову: яна не прыносіла аніякай карысці і грошай. Таму «Іваныч» абраў іншы шлях.

## Бізнес ад Івана

На пачатку 1990-х слова «бізнес» толькі-толькі ўваходзіла ў лексікон большасці беларусаў, але Ціцянкоў ведаў, што рабіць. 23 снежня 1992 года ён падаў заяву аб вызваленні яго з пасады сакратара камісіі Вярхоўнага Савета па праблемах чарнобыльскай катастрофы. Праз тыдзень ён заняў пасаду першага намесніка генеральнага дырэктара міжнароднага фонду «Наследие Чернобыля». У фондзе Іван працаваў да 1 лютага 1994 года, калі ўладкаваўся дырэктарам у сумеснае беларуска-венгерска-расійскае прадпрыемства з дзіўнай назвай «Тайминвест» з устаўным фондам у 200 тысяч долараў.

«Тайминвест» галоўным чынам аказваў пасрэдніцкія паслугі. Так, 26 студзеня 1994 года «Тайминвест» заключыў дагавор з мінскай карпарацыяй «Совтекс» аб рэалізацыі 8,5 тысячы тон дызпаліва на суму не менш 176,5 долараў за тону (у выніку Іван атрымліваў 1% узнагароды). З гэтай мэтай «Тайминвест» 23 лютага 1994 года заключыў дагавор з Беларускай чыгункай, якая купляла 5 тысяч тон паліва (177 долараў за тону). Дагавор падпісаў галоўны чыгуначнік Валадзько, аднак подпіс Ціцянкова адсутнічаў. Замест Івана паперу падпісаў нейкі Сільчанка, які, як стала вядома пазней, увогуле не ўваходзіў у штат «Таймінвеста».

Здзелка з палівам была свядомым парушэннем: яно каштавала ў два разы больш насуперак загаду Белнафтапрама №19-Х ад 16 лютага 1994 года. Акрамя таго, як у 1995 годзе паказала праверка, Беларуская чыгунка дадаткова атрымала 630,9 тон, якія не былі прапісаны ў дагаворы.

## Вялікі камбінатар

Стаўшы на чале Беларусі, Лукашэнка знайшоў пачэснае месца Ціцянкову. Са жніўня 1994 года Іван узначаліў Упраўленне справамі прэзідэнта. Цяпер бізнес можна было ставіць на шырокую нагу. Праўда, побач з'явіліся небяспечныя людзі: кіраўнік прэзідэнцкай адміністрацыі Сініцын і сакратар Савета Бяспекі Віктар Шэйман. У першыя часы троіца суіснавала мірна, але нават вожыку было зразумела, што яны рана ці позна ўчэпяцца адзін у аднаго.

Бізнес «заўгаса» Лукашэнкі быў просты, як граблі. Людзі Ціцянкова пачалі фактычны рэйдарскі захоп найбольш прывабных будынкаў у сталіцы і ў рэгіёнах. Затым здавалі іх у арэнду камерцыйным структурам і атрымлівалі вялікія барышы. Адпаведныя ўказы Лукашэнка выдаў 27 снежня 1994 года і 4 студзеня 1996 года. У ліпені 1997 года Лукашэнка падпісаў распараджэнне аб перадачы Ціцянкову яшчэ 22 сталічных будынкаў, у тым ліку і легендарнага Коласаўскага гуманітарнага ліцэя. Аднак навучэнцы ліцэя і іх бацькі далі такі бой, што ліцэй пратрымаўся яшчэ некалькі гадоў.

Другім напрамкам дзейнасці Ціцянкова стаў гандаль. У лістападзе 1995 года ўзнікла знакамітая фірма «Торгэкспо», якая мела права на бязмытны гандаль. Прыбыткі ад дзейнасці фірмы ішлі не ў бюджэт, а ў нейкі таемны прэзідэнцкі фонд. Вярхоўны Савет 13 склікання хацеў стварыць адмысловую камісію па праверцы фірмы, бо, як сказаў дэпутат Генадзь Карпенка ў сакавіку 1996-га, «туда-сюда шуруют водку». Намеснік Ціцянкова Кашкан літаральна не вылазіў з дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі і даказваў, што аніякай камісіі не патрэбна.

Ведамства Івана занялася і будаўніцтвам найбольш прыбытковых плошчаў, а таксама «ўпарадкаваннем» галоўнага беларускага багацця — лясоў. Недзяржаўныя СМІ даносілі аб парушэннях заканадаўства кіраўніцтвам справамі прэзідэнта ў Бярэзінскім запаведніку і Белавежскай пушчы.





Ліцэісты пратэстуюць супраць самадурства Ціцянкова. Фота: «Свабода», 1997 год

## Антончык супраць

20 снежня 1994 года ў жыцці Ціцянкова наступіў непрыемны момант: ягонае імя фігуравала ў знакамітым антыкарупцыйным дакладзе Сяргея Антончыка, які назваў Ціцянкова галоўным фінансістам Лукашэнкі і ягоным «политическим могильщиком».

Пакрыўджаны Ціцянкоў папрасіўся ў адстаўку, але атрымаў ад Лукашэнкі поўху і падаў на Антончыка ў суд. Суддзі заўсёды прымалі бок Ціцянкова, а Антончык быў вымушаны выплочваць вялікія штрафы.



Сяргей Антончык і Іван Ціцянкоў падчас судовага пасяджэння. Фота: «Свабода», 1995 год

16 мая 1995 года, калі вынікі рэферэндуму былі не зацверджаны Вярхоўным Саветам, Ціцянкоў на даху прэзідэнцкай адміністрацыі разарваў дзяржаўны бел-чырвона-белы сцяг на кавалкі і ставіў на іх аўтографы. Злыя языкі сцвярджалі, што кавалак каштаваў каля 200 долараў.

Старшыня Беларускага Хельсінкскага камітэта Таццяна Процька падала на Ціцянкова заяву. І атрымала адказ з Генпракуратуры, дзе было напісана, што Ціцякоў «утылізаваў зношанае палотнішча сцяга з парушэннем дзеючых інструкцый. Пра гэта паведамлена прэзідэнту».



Самая ганебная старонка ў біяграфіі Ціцянкова: ён ставіць аўтографы на кавалках разарванага ім Дзяржаўнага бел-чырвона-белага сцяга. Фота: «Свабода», 1995 год

З 1997 года над Ціцянковым згусціліся хмары: на Кіпр збег яго намеснік Кашкан. На пачатку лютага 1998 года арыштавалі начальніка аддзела аграрна-прамысловых комплексаў і падсобных вытворчасцяў Валерыя Папова.

А напрыканцы 1999 года прыйшла чарга Івана Ціцянкова...

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ФРАНЦЫЯ. Калі б немцы перамаглі ў Першай сусветнай

У межах урачыстасцяў з нагоды 100-й гадавіны заканчэння Першай сусветнай французскае выданне «Fayard» выпусціла кнігу «L'Autre siècle» («Іншае стагоддзе»). На яе старонках групе вядомых гісторыкаў ставяць пытанне: як бы выглядаў свет, калі б сто гадоў таму капітулявала не Германія, а яе праціўнікі. Адказы вельмі цікавыя. Дамінаванне Германіі ў выпадку перамогі не было б доўгім, паколькі ўвадчай нямецкай партыяй у той час былі сацыял-дэмакраты. Апошнія ўсё ж арыентаваліся на мірнае супрацоўніцтва з суседзямі. Хуткая адмова Берліна ад кантролю над Еўропай магла б выратаваць свет ад Другой сусветнай вайны. А вось Расію, на думку гісторыкаў, у любым выпадку чакалі б моцныя выпрабаванні. Яна магла б захавацца як манархія пры ўмове сыходу Мікалая II. Праўда, пад уплывам антыкаланіяльнага руху ў Індыі і ў Кітаі з часам на яе прасторах пачаўся б рух малых народаў за большую аўтаномію. На думку гісторыкаў, так ці інакш, мы б паступова атрымалі тую ж самую палітычную карту свету, што маем і зараз. Хіба што з адным выключэннем: наўрад ці гісторыя ведала б такі феномен, як амерыканскае глабальнае лідарства. Калі б Першая сусветная мела іншы вынік, Амерыка цяпер была б у статусе хіба што краіны — заканадаўцы культурнай моды.

**Паводле французскай прэсы**

### РАСІЯ. Печкін ідзе ў НКУС

Выйшла на экраны 8-я серыя новага мультфільма «Прастаквашына», якая мае назву «Несапраўдны дэтэктыў». У новым выпуску паштальён Печкін выступае ў незвычайнай ролі. Пакуль Шарык з Матроскіным спрабуюць ускапаць градку, знікае новая машына бацькоў Дзядзі Фёдара. Печкін бярэцца расследаваць крадзеж і выклікае на допыт Матроскіна і Шарыка. Сцэна допыту выклікала шокавую рэакцыю ў гледачоў. Амаль усе ведаюць, што Печкін — дзівак-паштальён. Але нечакана на экране пастаў суровы дазнаўца, які тыкае пальцам у Матроскіна. «Гэта ж сапраўдны супрацоўнік НКУС!» — вырашыла аўдыторыя. Смешна, але некаторыя прапануюць аўтарам серыялу развіваць менавіта гэту лінію. «Час адкідае рамантычных Печкіных, патрабуе Печкіных-робатаў, тэрмінатараў. Цвёрдых, рашучых, апранутых у чорныя скуранкі. Як мы любім», — пішуць аматары новага вобразу паштальёна. Прыдуманы ўжо і сцэнар будучых прыгод Печкіна. Напрыклад, ён мог бы вывесці на чыстую ваду Дзядзю Фёдара, пад маскай якога хаваецца агент ЦРУ.

**Паводле расійскай прэсы**

### УКРАІНА. Забярыце сцяг у героя

Украіна збіраецца святкаваць пятую гадавіну Еўрамайдана, адным з герояў якой быў Міхаіл Гаўрылюк, вядомы ў прэсе як «казак Гаўрылюк». Падчас акцый пратэсту на Еўрамайдане яго на марозе дагала распранулі прадстаўнікі «Беркута». Казус з Гаўрылюком меў гучны рэзананс. Пасля змены рэжыму яго абралі дэпутатам, а яго подзвіг натхніў аўтара помніка, што паставілі ў Барысполі ў гонар загінулых на Майдане. У цэнтры кампазіцыі — выява Гаўрылюка, які змагаецца з чорнай драпежнай птушкай. З тых часоў вобраз казака моцна змяніўся. Яго абвінавацілі ў крадзяжы гуманітарнай дапамогі, галасаванні за павышэнне коштаў, збіцці журналіста наўпрост у будынку парламента. Напэўна таму цяпер запатрабавалі прыбраць з помніка выяву дэпутата. Асноўных аргументаў два. Па-першае, Гаўрылюк не мае ніякага дачынення да «Нябеснай сотні». Па-другое, ён выяўлены голым з ледзь прыхінутым сцягам Украіны ніжэй за пояс. «Сцяг Украіны на прычынным месцы?! Гэты помнік — здзек!» — пішуць на форумах. Сам Гаўрылюк кажа, што не мае ніякага дачынення да канцэпцыі мемарыялу, аднак пры гэтым выступае супраць дэканструкцыі скандальнага помніка.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### АНДОРА. Скандал у княстве

Княства Андора вядомае незвычайная структурай кіравання. Фармальна ролю манарха сумесна выконваюць два чалавекі — прэзідэнт Францыі і біскуп Урхельскі, рэзідэнцыя якога знаходзіцца ў Каталоніі. Аднак рэальную ўладу ў княстве мае кіраўнік урада, які абіраецца большасцю дэпутатаў парламента. Нягледзячы на супярэчнасці, мясцовыя жыхары не збіраліся нешта мяняць, паколькі ані французскі кіраўнік, ані біскуп практычна не ўмешваліся ў мясцовую палітыку. Дакладней, так было раней. Але днямі біскуп запатрабаваў ад прэм'ера адмовіцца ад намеру легалізацыі ў княстве абортаў. Больш за тое, ён падключыў да справы Папу Рымскага, які асабіста дакараў прэм'ера па тэлефоне. Пры гэтым царква пагражае адклікаць свайго прадстаўніка, што непазбежна выкліча прававы калапс. Папярэдні падобны выпадак, дарэчы, меў месца ў далёкім 1934 годзе, калі парламент абвясціў каралём авантурыста Барыса Скосырава, нашага суайчынніка, пра якога пісаў «Новы Час». Тады баталія скончылася тым, што біскуп выклікаў паліцыянтаў, якія арыштавалі «караля». Паглядзім, што будзе гэтым разам.

**Паводле іспанскай прэсы**

# Футбол, Іран, жанчыны

Алег НОВІКАЎ

**Вашынгтон аднавіў антыіранскія санкцыі. Між тым, іранцаў пакуль не надта хвалююць тыя санкцыі. Значна большы рэзананс у краіне выклікаў нечаканы дазвол жанчынам зноў наведваць футбольныя матчы. Апошні раз нешта падобнае іранкі маглі сабе дазволіць у 1981 годзе.**



Фота www.edition.cnn.com

У фінале азіяцкай версіі Лігі чэмпіёнаў 10 лістапада тэгеранскі клуб «Persepolis» прымаў у сябе на полі японскі «Kashima Antlers», каб у выніку прайграць 0-2. Фіяска пазбавіла «Persepolis» магчымасці ўзяць галоўны трафей турніру, аднак матч выклікаў у іранскім грамадстве каскад станоўчых эмоцый.

Усё праз тое, што ўлады дазволілі прысутнічаць на трыбунах некалькім сотням заўзятарак. Гэта стала галоўным сюрпрызам матчу.

«Гэта было як рэалізацыя мары. Я не ведаю, што рабіць — мне плакаць, альбо, наадварот, смяяцца. У мяне амаль адбыўся інсульт», — апісаў свае пачуцці на стадыёне адзін з мясцовых спартыўных журналістаў. Газетыаднагалосна апісваюць фантастычны эпізод, калі 80-тысячны стадыён устаў, каб прывітаць апладысментамі з'яўленне жанчын на адной з трыбунаў.

Такая рэакцыя не дзіўная, калі ўзгадаць, што жанчын на матчах мужчынскага футболу ў Іране не бачылі прыкладна 35 гадоў. Сама прычына забароны ўваходу жанчын на стадыёны ў Іране дасюль цалкам незразумелая. Відавочна, яна нейкім чынам звязана з новымі нормамі, якія ўводзіліся ў краіне пасля Ісламскай рэвалюцыі.

Пару гадоў таму адзін з спартовых чыноўнікаў аргументаваў неабходнасць абмежаванняў тым, што мужчыны-заўзятары любяць скандаваць на адрас гульцоў і суддзяў брудныя крычалкі. Маўляў, падобная лексіка можа духоўна параніць прадстаўніцу слабага пола. Таксама чыноўнікі непакоіліся, што жанчын можа разбэсціць выгляд мужчынаў, якія бегаюць на полі ў спартовай вопратцы. Цікава, што перажывалі аяталы таксама і за ўнутраны духоўны свет жанчын з замежжа. Толькі з 2005 года замежніцам дазволілі прысутнічаць на іранскіх стадыёнах.

Асабліва дыскамфортнай для ўлады была сітуацыя, калі іранская зборная прымала ў сябе каманду з іншай суседняй мусульманскай краіны, дзе жанчынам дазволена хадзіць на спартовыя мерапрыемствы. Вельмі часта замежных футбалістаў суправаджала тарсіда з удзелам жанчын. Іх, паводле статуту FIFA, на стадыён (у адрозненне ад іранак) прапускалі. Знешне гэта выглядала як дыскрымінацыя.

Як вынік, паступова тэма права жанчын хадзіць на футбол у Іране набыла глабальнае палітычнае вымярэнне. Пачынаючы з 2013 года ўсе ліберальныя кандыдаты ў прэзідэнты абяцаюць перагледзець драконаўскі закон 1981-га. Кампаніі салідарнасці з іранкамі-фанаткамі рэгулярна праводзіліся на Захадзе. У самім Іране актывісткі наўмысна намагаліся прайсці на стадыёны — нягледзячы на пагрозу арышту. У сакавіку 35 жанчын былі арыштаваныя за спробу наведаць сустрэчу вядучых сталічных клубаў.

У мінулым годзе гульня Іран — Сірыя, на якую завіталі шмат сірыйскіх жанчын-тыфозі, зноў выклікала агульнанацыянальную палеміку пра неабходнасць перагляду архаічных правілаў. У выніку лёд зрушыўся. Праўда, кансерватары да апошняга прастычную гендарную роўнасць на іранскіх стадыёнах. Тым больш, што (паводле чутак) не так даўно ў офіс FIFA перадалі адпаведную петыцыю, якую падпісалі 200 тысяч іранак. Трэба было стварыць ілюзію, што ўсё добра. Нарэшце, іранскім чыноўнікам рабіць такія фокусы не ўпершыню. У 2005 годзе некалькім дзясяткам жанчын дазволілі глядзець сустрэчу зборных Ірана і Бахрэйна. Тады таксама шмат казалі пра легалізацыю, аднак хутка сітуацыя аказалася закансерваванай.

У прэсе хапае плётак і пра тое, што 10 лістапада на стадыён пускалі спецыяльна абраную публіку. Спісы «фанатак» былі складзеныя загадзя адпаведнымі дзяржструктурамі. Як правіла, гэта жонкі або родныя футбольных функцыянераў або спартоўцаў. «Дзверы стадыёнаў усё яшчэ зачыненыя для іранскіх жанчын. Іх адкрылі абраным, і толькі на адзін дзень», — робіць выснову агенцтва AFP News.

**Пачынаючы з 2013 года ўсе ліберальныя кандыдаты ў прэзідэнты абяцаюць перагледзець драконаўскі закон 1981-га. Кампаніі салідарнасці з іранкамі-фанаткамі рэгулярна праводзіліся на Захадзе. У самім Іране актывісткі наўмысна намагаліся прайсці на стадыёны — нягледзячы на пагрозу арышту**

цягвалі супрацію. Разумеючы неадэкватнасць закона 1981 года, яны прапанавалі свой варыянт вырашэння праблемы: стварыць на стадыёне спецыяльны сектар для жанчын, куды тыя маглі трапіць выключна ў суправаджэнні мужа.

І вось з 10 лістапада старыя правілы, магчыма, скасаваныя. Праўда, у заходняй прэсе можна стыкнуцца са скептычнымі каментарамі. У іх звяртаюць увагу на адну дэталь: на матчы паміж «Persepolis» і «Kashima Antlers» прысутнічаў Джані Інфанціна, кіраўнік FIFA. Натуральна, пад візіт такога высокага госця іранцы маглі стварыць адпаведную інсталяцыю, якая павінна была сведчыць пра фантаТым не менш, ліберальны Іран усё роўна святкуе перамогу. «Дзверы напалову адчыненыя. Трэба яшчэ трошкі націснуць, каб адчыніць іх цалкам», — кажа адна з ліберальных дэпутатак іранскага парламента. Натуральна, шмат хто марыць пра тое, што лібералізацыя на стадыёнах з'яўляецца пралогам да больш шырокіх рэформаў.

Напэўна, такія надзеі маюць пад сабой нейкую глебу, аднак пакуль, на жаль, падаецца, што рацыю маюць усё ж скептыкі. 10 лістапада віцэ-прэм'ер Ірана сустрэўся з намеснікам кіраўніка азіяцкай футбольнай федэрацыі і заклікаў візаві не дапускаць палітызацыі футболу.



Фота www.focus.de

# Меркель сыходзіць, прыходзіць Мерц?

Алег НОВІКАЎ

**Шэраг уплывовых нямецкіх медыя амаль сінхронна выдалі аднолькавы прагноз наконт вынікаў снежаньскага з'езду Саюза хрысціянскіх дэмакратаў (CDU). На іх думку, Ангелу Меркель на пасадзе кіраўніка партыі дакладна зменіць Фрыдрых Мерц. Відавочна, што з часам ён і ўзначаліць федэральны ўрад.**

Выбар на пасаду новага лідара CDU знешне нагадваў вядомую лічылку пра «дзесяць негрыцянят». Калі Меркель толькі заявіла пра свой сыход з пасады лідара партыі, клуб тых, хто патэнцыйна мог заняць вакансію, ацэньваўся прыкладна ў 12 чалавек. Пасля колькасць кандыдатаў скарацілася да 3–4. Нарэшце застаўся толькі адзін. Калі не адбудзецца нічога экстравагантнага, то віншаванні на будучым з'ездзе прыме Фрыдрых Мерц.

Мерц нарадзіўся ў 1955 годзе. Служыў у войску, у ВНУ вывучаў права. Працаваў карпаратыўным адвакатам, пакуль не зрабіў бліскучую палітычную кар'еру — у 1994 годзе быў абраны ў Бундэстаг, каб у 1999-м стаць лідарам фракцыі. Аднак у 2009-м з-за канфлікту з Меркель пайшоў з кіраўніцтва партыі і да апошняга часу працаваў у бізнесе. 30 кастрычніка Мерц заявіў пра намер кіраваць CDU — і нечакана стаў фаварытам.

Прагнозы СМІ наконт перамогі Мерца грунтуюцца, у асноўным, на інсайдарскай інфармацыі партыйных функцыянераў, якія ведаюць пра настроі шарагоўцаў. Да таго ж існуюць інтэрнэт-апытанкі. Паводле іх, Мерц атрымае каля 35 працэнтаў. Яго асноўны канкурэнт — Анегрэт Крамп-Карэнбаўэр — можа разлічваць на 22 працэнты. Яшчэ адзін крытык Меркель Енс Шпан карыстаецца падтрымкай 8 працэнтаў.

Дарэчы, пра Крамп-Карэнбаўэр. Раней Меркель прызначыла яе на пасаду партыйнага генсека, такім чынам даючы зразумець, каго яна бачыць сваім пераемнікам. Аднак пераемнасці ў нямецкіх кансерватараў можа і не здарыцца. Новы старшыня будзе актыўна пераглядаць спадчыну цяперашняга канцлера.

Ад Мерца, перш за ўсё, чакаюць карэктываў іміджу партыі. Канфлікты Меркель і Мерца мелі яскравы ідэалагічны характар. Меркель імкнулася зрушыць партыю ў больш левую нішу палітычнага спектра. Мерц дамагаўся кансервацыі ранейшага правацэнтрысцкага курсу.

Магчыма, Мерц будзе эксплуатаваць і больш правую антыэмігранцкую рыторыку. Прынамсі, у свой час шырокі розгалас атрымала яго заява пра неабходнасць стварэння мадэлі «нямецкай культуры», якая будзе здольная інтэграваць усіх імігрантаў. Ён таксама гучна падтрымліваў заклікі супраць падвоенага грамадзянства для жыхароў ФРГ. Так ці інакш, ад Мерца чакаюць перш за ўсё рашучых дзеянняў супраць правапапулістаў з «Альтэрнатывы для Германіі», якія актыўна

**Прагнозы СМІ наконт перамогі Мерца грунтуюцца, у асноўным, на інсайдзе партыйных функцыянераў, якія ведаюць пра настроі шарагоўцаў. Да таго ж існуюць інтэрнэт-апытанкі**

перацягваюць на свой бок электарат кансерватараў.

Мерц, будучы адным з лідараў CDU, выступаў за пашырэнне свабодаў для бізнесу. Напрыклад, насуперак пазіцыі Ангелы Меркель, выступаў за агульнаеўрапейскую бюджэтную палітыку і агульны рынак працы.

Акрамя таго, не так даўно Мерц далучыўся да апублікаванага ў газеце «Handelsblatt» маніфесту, падпісантамі якога выступілі шэраг вядомых нямецкіх інтэлектуалаў і эканамістаў. У тэксце пад назвай «Мы занепакоеныя лёсам Еўропы і будучыняй Германіі» гаворыцца пра неабходнасць падтрымаць амбіцыйныя праекты Эмануэля Макрона. Парыж, як вядома, выступае за імклівую інтэграцыю Еўропы — аж да стварэння асобнага еўрапейскага войска. Такая пазіцыя яўна не пасуе поглядам нацыяналістычнага крыла партыі кансерватараў.

З улікам згаданага, цяжка казаць пра тое, якім дакладна будзе курс канцлера Фрыдрыха Мерца. Між тым, крытыкі на яго адрас ужо хапае. Пішуць, што татальнае адмаўленне спадчыны Меркель зробіць немагчымай кааліцыю з эсдэкамі і зялёнымі. Як следства — партыя будзе паступова сыходзіць у правае гета, дзе яе саюзнікам можа стаць толькі тая самая маргінальная «Альтэрнатыва для Германіі». Занепакоенасць выклікае і той факт, што Мерц доўгі час працаваў з буйнымі кампаніямі, і таму можа перетаваць ў лабіста карпарацый. Нарэшце, памятаючы, як калісьці Меркель без сантыментаў выкінула Мерца з кіраўніцтва партыі, пішуць пра магчымасць таго, што Мерц, заняўшы крэсла лідара, адразу пачне помсціць прыхільнікам Меркель. Без сумневаў, такія разборкі прывядуць да крызісу ўсёй структуры.

З іншага боку, Меркель і яе пратэжэ АКК (такую мянушку далі Анегрэт Крамп-Карэнбаўэр) рана адпраўляць у архіў гісторыі. Меркель доўгі час кіравала партыяй і цудоўна ведае партыйны арганізм, рэгіянальныя і ідэалагічныя плыні, амбіцыі асобных палітыкаў. Яшчэ хапае часу, каб цвяроза ацаніць стан рэчаў і падрыхтавацца да вырашальнага бою з Мерцам. Усё вырашыцца 7–8 снежня.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Саўлюс Сквярляніс



Кіраўнік ураду Літвы, які фармуе Партыя зялёных і сялян, анансаваў увядзенне ў краіне талонаў для набыцця беднымі літоўцамі недаступных ім тавараў і прадуктаў. Згодна з інфармацыяй Eurostat, такіх у нашай паўночнай краіне-суседцы аж 28 працэнтаў.

Ідэя прэм'ера на першы погляд нагадвае акт палітычнага самагубства. Па-першае, урад фактычна прызнае наяўнасць вялікай катэгорыі беднага насельніцтва, якому не можа дапамагчы інакш, як падачкай. Па-другое, на памяць адразу прыходзяць часы СССР, дзе таксама дзейнічалі талоны на некаторыя групы дэфіцытных тавараў. Зрэшты, Сквярляніс заклікаў не праводзіць такія паралелі. «Гэта будуць купоны для набыцця спецыфічных тавараў у малых і сярэдніх вытворцаў, фермераў для падтрымкі гэтых вытворцаў», — растлумачыў ён.

Пры ўсёй абсурднасці ідэі з талонамі, нельга выключаць, што гэта ідэя — частка вялікай палітычнай гульні. Ініцыятыва, паводле дзіўнага збегу абставінаў, была агучана напярэдадні 12 лістапада, калі афіцыйна пачалася прэзідэнцкая кампанія. Паколькі Даля Грыбаўскайтэ вычарпала ліміт кадэнцый, пасаду літоўскага гаранта зойме хтосьці іншы. Цяпер кандыдатуру Сквярляніса падтрымлівае каля 20 працэнтаў выбаршчыкаў. Гэта трэці паказчык у рэйтынгу кандыдатаў. Прэм'ера апярэджваюць незалежны эканаміст Гітанас Наўседа і лідар правацэнтрысцкай апазіцыі Інгрыда Шыманітэ. У гэтым плане абяцаныя шматлікім бедным літоўцам талоны могуць стаць важкім складнікам палітычнай рэкламы на карысць кандыдата ад улады.



### Калінда Грабар-Кітаравіч

Кіраўніца Харватыі падтрымала прапановы правацэнтрысцкага ўраду пра перагляд статус харватаў у Босніі і Герцагавіне. На яе думку, баснійскія харваты знаходзяцца ў прыніжаным становішчы, паколькі не маюць уласнай тэрытарыяльнай аўтаноміі.

Цяпер, нагадаем, баснійскія харваты пражываюць у зоне баснійска-харвацкага кантона. Другім суб'ектам Босніі і Герцагавіны з'яўляецца Рэспубліка Сербская. Прапановы з Заграба наконт аўтаноміі для харватаў выклікалі заканамерную трывогу ў Бруселі. Самі па сабе рэвізія старых пагадненняў і перагляд межаў гарантуюць новы міжэтнічны канфлікт. Плюс ідэя аўтаноміі для баснійскіх харватаў нагадвае праект Herceg-Bosna — нефармальнага дзяржфармавання, якое стварылі харвацкія нацыяналісты падчас вайны ў Югаславіі. Некаторыя яго лідары за злачынствы супраць цывільнага насельніцтва ў выніку апынуліся ў Гаазе.

Наогул, развагі наконт прыгнёту харватаў у Босніі гучаць дзіўна. На апошніх выбарах лідарам баснійска-харвацкага кантона стаў менавіта харват. Супярэчлівыя захады Заграба некаторыя каментатары тлумачаць рэхам апошняга Чэмпіянату свету па футболе, на якім Харватыя атрымала срэбра. Трыумф футбалістаў спраавакаваў на радзіме нябачаную хвалю нацыяналізму, якая не сціхае да гэтага часу. Каб захоўваць папулярнасць у такой атмасферы, палітыкі вымушаныя агучваць адпаведныя лозунгі.

### Марцін Фаўлу



Рашэнне пра тое, што 61-гадовы Фаўлу будзе прадстаўляць дэмакратаў на снежаньскіх выбарах прэзідэнта Дэмакратычнай Рэспублікі Конга было дасягнутае 11 лістапада на кангрэсе з удзелам усіх партый апазіцыі.

Выбар досыць незвычайны, паколькі «адзіны кандыдат» — малавядомы дэпутат. З іншага боку, выбар на карысць такога палітыка дазволіў спыніць спрэчку паміж вядучымі лідарамі апазіцыі. Зрэшты, не выключана, што «адзінага» вызначылі замежныя спонсары.

Так ці інакш, цяпер апазіцыйныя структуры могуць засяродзіцца на кампаніі, якая будзе мець фатальнае значэнне як мінімум для ўсёй Афрыкі. Нагадаем, што Дэмакратычная Рэспубліка Конга — не толькі самая вялікая краіна на кантыненце, але і сапраўдная скарбніца карысных выкапняў. Супрацьстаяць кандыдату ад «адмарозкаў» будзе таксама малавядомая ў краіне фігура — Рамазані Шадары. Відавочна, што ён усяго толькі марыянетка ў руках Джозэфа Кабілы, які кіруе краінай з 2001-га. І кіраваў бы далей, калі б міжнародная грамадскасць не запатрабавала паважаць Канстытуцыю. Зрэшты, відавочна, што ў шматэтнічнай краіне, дзе на месцах часцяком усё вырашаюць грошы і гвалт, ніякай нармальнай выбарчай кампаніі не будзе. Таму апазіцыя патрабуе, каб у краіне былі выкарыстаныя адмысловыя машыны для галасавання.

# Выкупіць дом беларускага паэта і стварыць музей



Сяргей ЧЫГРЫН

**У першай палове XX стагоддзя на Гродзеншчыне жыў таленавіты юнак Алесь Мілюць. Ён нарадзіўся ў 1908 годзе ў вёсцы Скорычы Наваградскага павета (цяпер Карэліцкі раён). Спачатку скончыў два класы пачатковай школы, а потым свае веды паглыбляў самаадукацыяй.**

Алесь быў высокага росту, фізічна моцным юнаком, таму сельскай працы не цураўся, а працаваў на зямлі ад душы шчыра і плённа. Але разам з фізічнай працай напачатку 1930-х гадоў пачаў пісаць вершы. Дасылаў іх у часопісы «Пралескі», «Шлях моладзі», «Хрысціянская думка». Яго творы траплялі і ў агляд паштовай скрынкі «Шляху моладзі»: «Вы пісаць можаце і Вам трэба пісаць, але пісаць тады, калі ёсць натхненне, не змушаючы сябе ў гэтага, ды зварочваючы пільна ўвагу на форму...» («Шлях моладзі», 1935, № 6). І вясковы хлопец пісаў...

Першы верш «Беларусам я радзіўся...» быў надрукаваны ў часопісе «Пралескі» ў першым нумары за 1934 год. Гэты верш надрукавалі і ў часопісе «Шлях моладзі». Верш смелы і шчыры. Ён пачынаўся радкамі прызнання:

*Беларусам я радзіўся,*
*Беларусам буду жыць,*
*Беларускую зямельку*
*Буду шчыра я любіць...*

Калі ў Заходнюю Беларусь прыйшла савецкая ўлада, юнака запрасілі на працу ў Стаўбцоўскую раённую газету. Гэта была вялікая радасць — працаваць у газеце і пісаць пра сваіх землякоў. Але радасць была нядоўгай, бо пачалася вайна. Спачатку юнак знаходзіўся ў партызанскай зоне, а потым, калі адступалі гітлераўцы, быў мабілізаваны на фронт. А 26 кастрычніка 1944 года ва Усходняй Прусіі Алесь трапіў пад снайперскую кулю і загінуў. Яго пахавалі ў брацкай магіле ў пасёлку Ватуціна Калінінградскай вобласці.

Пры жыцці Алесю Мілюцю не пашчасціла выдаць ніводнага зборніка вершаў. Яго творы друкаваліся ў калектыўных зборніках, а ў 2003 годзе пісьменнік Мікола Бусько сабраў і выдаў у Слонімскай друкарні яго першы зборнік «Паэзія баразны».

У траўні 2017 года ў «Новым Часе» быў апублікаваны мой матэрыял «Пра што можа нагадаць стары здымак?». Гэтым старым здымкам было фота, на якім сфатаграфаваны ўрад Беларускага студэнцкага саюза (БСС) Віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя ў 1932 годзе. Такі Беларускі студэнцкі саюз існаваў у Віленскім універсітэце з 1920 года.

Беларускі студэнцкі саюз праводзіў культурна-асветніцкую дзейнасць, даваў пазыкі і стыпендыі сваім сябрам, якія былі з бедных сем'яў. Пры саюзе існаваў славуты хор Рыгора Шырмы, у якім спявалі пераважна студэнты, і які адзін час называўся Беларускі хор пры Беларускім студэнцкім саюзе. Існавалі там і курсы беларускай мовы, беларусазнаўства, кааперацыі, дзейнічала сталоўка «Беларуская сытніца» і гэтак далей.

На здымку, які быў апублікаваны ў «Новым Часе», злева направа сядзяць Эма Залкінд, Эрвін Кашмідэр, Марыя Мілюць, Станіслаў Станкевіч. Стаяць злева направа Янка Хворост, Мар'ян Пецюкевіч і Хведар Ільяшэвіч. Лёс гэтых людзей склаўся па-рознаму. Пра адных мы ведаем сёння шмат, пра іншых — зусім мала. Фотаздымак быў з прыватнага архіва перакладчыка Алеся Траяноўскага (1925–2005). Менавіта так здымак быў падпісаны. І ўказана, што Марыя Мілюць, якая сядзіць злева ад Эрвіна Кашмідэра, была родам з Наваградскага павета. Гэта родная старэйшая сястра паэта Алеся Мілюця (1908–1944), які загінуў у гады вайны.

Аказалася, што гэта не так. На здымку — далёка не родная сястра Алеся Мілюця, а Марыя Мілючанка. Тая Мілючанка (Мілюк), якая публікавала вялікія артыкулы пра класікаў беларускай літаратуры. У прыватнасці, у часопісе «Шлях моладзі» быў змешчаны яе матэрыял «Грамадская і літаратурная дзейнасць Цёткі» (1936, № 13) і іншыя. Таму гэту таямніцу дапамагла разгадаць праправунучка Алеся Мілюця Юлія Аніскевіч.

Прозвішча Мілюць у вёсцы Скорычы было вельмі распаўсюджаным. А ў сям'і паэта Алеся Мілюця было шасцёра дзяцей, але адукацыю два класы





Марыя Мілюць — родная сястра Алеся Мілюця. Фота друкуецца ўпершыню

меў толькі Алесь. З усіх жыхароў даваенных Скорычаў толькі адзін чалавек вучыўся ў Віленскім універсітэце. Гэта Пётр Хмель. Родная сястра Алеся Мілюця Марыя адукацыі не мела.

Пра лёс Мілюцяў удалося пагутарыць з Юліяй Аніскевіч. Яна адказала на некалькі пытанняў, у прыватнасці і пра родную сястру Алеся Мілюця Марыю.

— Шмат гадоў мы не мелі ніякай інфармацыі пра жыццё Марыі Мілюць, бо з-за цяжкага характару яна не вельмі любіла родных, акрамя Алеся і другога роднага брата Івана. У Марыі не было нашчадкаў, усё жыццё яна была адна і нават не пакінула пра сабе аніякай памяці. Верагодна, усе яе рэчы знаходзяцца ў нашчадкаў яе старэйшай сястры, але яны не выходзяць на кантакт. Таму давялося правесці самой даследаванне. Яшчэ са школьных гадоў я збірала інфармацыю пра гісторыю сваёй сям'і, і, канешне, большая частка майго даследавання была прысвечана асобе Алеся Мілюця. Усё гэта дзякуючы маёй бабулі — пляменніцы Алеся. Менавіта ад яе я пачула многа цікавага пра ўсю іх сям'ю, бабуля таксама перадала нам адзін з калектыўных зборнікаў вершаў «Крывёю сэрца», дзе было некалькі вершаў Алеся. Зараз матэрыялы для напісання радавога дрэва збірае мая матуля і, шчыра кажучы, прыходзіцца па маленькіх крупічках складаць гісторыю жыцця сваіх продкаў.

— Які лёс хаты ў Скорычах Карэліцкага раёна, дзе жылі Мілюцi?

— Мы сёння сур'ёзна заняліся домам і хочам яго аднавіць. Пасля смерці малодшага брата Івана сельсавет забараніў маім бабулі з дзядулем штосьці рабіць з домам і паабяцаў арганізаваць там музей. На жаль, гэтага да сёння не адбылося. На доме знаходзіцца толькі шыльда з прозвішчам Алеся Мілюця і гады яго жыцця. Нядаўна мы наведалі Скорычы і ўбачылі дом у вельмі дрэнным стане. За ім ніхто з мясцовых чыноўнікаў не глядзіць. Таму найперш мы вырашылі набыць дом, самі адновім яго і адкрыем музей Алеся Мілюця.

— Зборнік вершаў «Паэзія баразны» рыхтаваў Мікола Бусько з Баранавіч. Я з ім пагутарыў пра дом Мілюцяў у Скорычах. Спадар Мікола сказаў, што ён нядаўна быў там, размаўляў са старшынёй сельсавета і ў Карэліцкім райвыканкаме, прасіў не даць знішчыць дом Мілюцяў. Нібыта яму гэта паабяцалі.

— Я вельмі спадзяюся, што спадар Бусько дапаможа нам у перамовах з сельсаветам. Мы актыўна супрацоўнічаем з сельсаветам, каб выкупіць дом і аднавіць яго. Мы ўжо амаль знайшлі экспертаў, каб яны ацанілі стан фундаменту і самой хаты ўвогуле. Дом зараз зачынены, два тыдні таму мы павесілі замок і спілавалі старыя дрэвы. Я буду выступаць у якасці фундатара ўсіх работ па ўпарадкаванні і закупках. Гэта сямейная спадчына, і дом павінен належаць сям'і. Наша бачанне вынікаў рэканструкцыі — жылы дом з функцыяй музея імя Алеся Мілюця...

Да сказана вышэй хочацца дадаць, што ў вершах заходнебеларускага паэта Алеся Мілюця заўсёды гучалі матывы любові да Бацькаўшчыны, да беларускага народа, «патомка слаўных крывічоў». Паэт да смерці верыў у адраджэнне свайго народа:

*І новым шчаслівым свабодным жыццём*
*Прабудзяцца родныя гоні...*
*Эх, братка, свабодна і мы зажывём*
*Пад сцягам Крывіцкай Пагоні!*

Гэтыя радкі Алесь Мілюць напісаў 7 сакавіка 1935 года ў Скорычах.

Юлія Аніскевіч даслала і некалькі здымкаў. Два з іх даволі рэдкія і сёння публікуюцца ўпершыню. Гэта здымак Алеся Мілюця і яго роднай сястры Марыі.




Хата Мілюцяў

# Французскі след Тэадора Нарбута

Анатоль СЦЕБУРАКА,
кандыдат гістарычных навук

**Тэадор Нарбут — адзін з найбольш заўважных дзеячаў беларускай гістарычнай навукі першай паловы XIX стагоддзя. Ён пакінуў значны след у археалогіі, археаграфіі, фальклярыстыцы і музейнай справе. Аднак яго навуковы ўнёсак, на жаль, нельга назваць бездакорным.**

Апаненты небеспадстаўна папракалі Нарбута ў фальсіфікацыях і вельмі вольным выкарыстанні гістарычных фактаў. Тым не менш забываць гэту выбітную постаць першай паловы XIX стагоддзя было б злачынствам. Дзень нараджэння Нарбута (1784–1864 гг.), які па старым стылі прыпадае на 28 кастрычніка (ці на 8 лістапада па новым стылі) у чарговы раз падштурхоўвае нас да рэфлексіі аб яго творчай спадчыне і таямніцах біяграфіі. А наступны, 2019 год наогул мусіць прайсці пад знакам Нарбута — спаўняецца 235 гадоў з дня яго нараджэння!

У біяграфіі, як і ў творчай спадчыне Тэадора Нарбута, шмат неверагодных і часам фантастычных дэталяў. Чаго толькі вартая адна гісторыя са знаходкай і публікацыяй «Баркулабаўскага летапісу». Але асабіста мяне заўжды інтрыгаваў эпізод знікнення Нарбута ў 1812 годзе.

Здзіўляла, што біяграфія настолькі папулярнай асобы фактычна мае белую пляму ў такі вырашальны для лёсу Радзімы год. Што рабіў Нарбут у 1812 годзе? Неаспрэчны факт, што ён кінуў вайсковую кар'еру і выйшаў у адстаўку якраз напярэдадні вайны ў чыне штабс-капітана расійскага войска. Што было далей? Алесь Ненадавец у біяграфіі Нарбута (Серыя «100 выдатных дзеячаў», 2014 год) асцярожна абыходзіць гэта пытанне, намякаючы на прафранцузскія настроі навукоўца: «Зразумела, сказаліся раны, кантузія, хваробы, але нельга забывацца і пра тое, што Нарбут чакаў ад хуткай вайны не перамогі рускіх войскаў, а здзяйснення абяцанняў Напалеона, паводле якіх тэрыторыя сучаснай Беларусі павінна была вярнуцца ў межы Рэчы Паспалітай да першага падзелу ў 1772 годзе». У іншай біяграфіі Нарбута, якая належыць Кастусю Тарасаву, чытаем больш інтрыгуючую версію. Дакладней, версіі.



Прапаноўваюцца тры магчымыя сцэнары падзей. Першы прадугледжваў, што Нарбут ціха перабыў лета-восень 1812 года ў сваім маёнтку Шаўры на Лідчыне. Другі, больш цікавы, накіроўваў яго зноў на службу ў расійскую армію. («...вайну 1812 года ён сустрэў у Вільні, знаходзячыся пры двары імператара Аляксандра, і быццам бы ўдзельнічаў у вайне з Напалеонам у шэрагах расійскай арміі, і нават атрымаў за гэта медаль. У якой арміі, у якім палку якой дывізіі ці пры якім штабе — невядома»). Апошняя, трэцяя версія, найбольш шматабяцальная. Паводле яе Нарбут далучыўся да Вялікага Войска ў Вільні і служыў перакладчыкам пры штабе генерала Жана-Клода Маро (1755–1828). Пасля паразы Банапарта Нарбут не эміграваў, а застаўся дома нелегальна, пакуль не дачакаўся амністыі ў 1815 годзе. Адназначны адказ пра 1812 год у жыцці Нарбута мог бы даць сам герой, але ён, на жаль, ніколі не выказваўся на гэту тэму адназначна і дэталёва.



Тапаграфічны план Вільні. Аўтар — Т.Нарбут

Сапраўды, тры агучаныя версіі ўвесь час перадрукоўваюцца і множацца ў польска-, беларуска- і рускамоўных крыніцах. Верагоднасць удзелу Нарбута ў вайне на баку Напалеона не пацвярджаецца дакументальна. Канешне, французы маглі мець вялікую цікаўнасць да ваеннага інжынера, які ў свой час праектаваў і, адпаведна, ведаў усё пра Бабруйскую крэпасць. А яе падчас вайны трымалі ў аблозе і не маглі ўзяць атрады польскага генерала Яна Дамброўскага. Патрыятычныя матывы таксама маглі падштурхнуць Нарбута да актыўных захадаў у 1812 годзе (прыгадаем яго пазіцыю падчас паўстанняў 1830–1831 і 1863–1864 гадоў).

Летась я паспрабаваў знайсці ўласны адказ пра дэталі 1812 года ў жыцці Нарбута, падчас працы ў Ваенным, а пасля і ў Нацыянальным архіве Францыі. Шанец адшукаць згадку пра чальца штабу французскага генерала быў сапраўды даволі вялікі, бо справаводства ў напалеонаўскім войску працавала дакладна, як механізм гадзінніка. Ды марна. Пошук Нарбута ў атачэнні генерал Маро не даў выніку. Безумоўна, гэта не абвяргае гіпотэзу, бо ў архіўных пошуках нельга спадзявацца на хуткі вынік.

План Вільні рукі Тэадора Нарбута — гэта не проста падрабязны і дасканалы тапаграфічны твор, але яшчэ і працяг яго бачання гісторыі нашай старажытнай сталіцы. Ілюстрацыя да яго літаратурна-гістарычнай спадчыны. Але чаму каментар да яго быў зроблены па-французску?

Нечаканым французскім следам Нарбута стаў план Вільні ў картаграфічнай калекцыі Нацыянальнай бібліятэкі Францыі («Plantopographique de Vilna» (D1803)). Пра аўтарства сведчыць подпіс «намалявана Т. Нарбутам» («dessiné par T. Narbouth»). Каб упэўніцца ў аўтарстве плана Вільні, варта параўнаць гэты подпіс з аўтографам на кнізе, што захоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Зірніце самі! Розніца ў напісанні прозвішча палягае ў французскай перадачы гучання слова. Але вось напісанне і нахіл літар, і, галоўнае, вензель — яны красамоўна сведчаць пра руку аднаго чалавека.

Іншая справа, што наяўнасць у французскім кнігазборы плана Вільні не з'яўляецца доказам яго ўдзелу ў вайне. Было безліч іншых магчымасцяў для з'яўлення малюнка ў Парыжы. Тым не менш, план Вільні рукі нашага вядомага інжынера і гісторыка варты пільнай увагі даследчыкаў. Нагадаем, што Нарбут паводле ваеннай адукацыі быў інжынерам-фартыфікатарам.

Тапаграфічны план Вільні — гэта даволі вялікі па памеры твор (45х32 см.), выкананы тушшу і фарбамі. Ён не датаваны (GED-1803 — гэта шыфр, а не дата!). Аўтар плана пазначае ўсе храмы, значныя грамадскія будынкі і галоўныя вуліцы Вільні. Так сама на схеме адлюстравана знаходжанне млыноў і цагельняў, што схіляе да думкі аб магчымых практычных мэтах стварэння плану.

Усё ж як можна датаваць гэты план Вільні? Дзякуючы некаторым аб'ектам і іх дыслакацыі можна прыблізна назваць час яго стварэння. У прыватнасці, у «№44 Анатамічны тэатр» пазначаны ў квартале каля ракі Вілейкі — у адным з найстаражытнейшых храмаў Вільні — праваслаўным Прачысценскім саборы. Пераабсталяванне сакральнага будынку пачалося з 1808 года, калі будынак выкупіў Віленскі Універсітэт, і яго рэканструкцыяй на працягу трох год займаўся архітэктар Міхаіл Шульц. А ў 1815–1841 гадах тут ужо працаваў анатамічны тэатр з аўдыторыямі ды кнігазборам. На плане ёсць яшчэ шэраг падказак (Віленскі ўніверсітэт, Уніяцкая царква св. Мікалая і іншыя), якія не дазваляюць датаваць план Нарбута пазней за другую палову 1830-х гадоў. Адпаведна, гэты дакумент можа смела лічыць жывой ілюстрацыяй для Вільні легендарных часоў філаматаў і філарэтаў, Вільні, па якой блукаў яшчэ студэнтам Адам Міцкевіч.

Але Нарбут не быў бы самім сабой, калі б на гэтым плане не пакінуў знаку пра сваю любоў да паданняў. Пад №48 на легендзе да мапы пазначаны «Уваход у падземны ход (падзямелле), які перасякае пад зямлёй увесь горад». Побач з №30 «Дзіцятка Езус». Забягаючы наперад скажам, што там сёння сапраўды існуе тунель даўжынёй блізу 150 метраў, які быў змураваны ў XVI стагоддзі як сакрэтны схрон.

Звесткі пра таямнічыя сутарэнні можна адшукаць у шматлікіх крыніцах. Напрыклад, Адам Кіркор пра іх пісаў наступнае: «Вильно одно из древнейших поселений в этом крае. ... в начале XIV столетия Вильно могло быть небольшим Литовским поселением и имело деревянное укрепление, по мнению историков, на том месте, где ныне богоугодное заведение Иисус Младенец, с подземным ходом, коего следы доселе сохранились».

Верагодна, спасылка на меркаванне іншых гісторыкаў нас накіроўвае якраз да самога Тэадора Нарбута. У першым томе яго славутага твору «Гісторыі літоўскага народа» (1835 год) сустракаецца дастаткова разгорнуты нарыс пра сутарэнні ў Вільні: «У Вільні на плацы, што сёння ўваходзіць у манастыр Дзіцятка Езус, побач са сцяной былога гарадской муру, заўважныя зараз сляды былой крэпасці, альбо асобнага замку, якія раней Бакштай называлі. Пад усёй гэтай гарой знаходзяцца прасторныя падземныя хады, з вельмі трывалага цаглянага мура, з заламі, фрамугамі, нішамі, якія цягнуцца з рознымі паваротамі, кажуць, канец якіх невядомы да гэтага часу. Гэтыя хады злучаліся з невялікай таемнай бажніцай, якая месцілася ў той Бакшце».

Нарбут дадае, што паміж Вільняй і Трокамі ў даўнейшыя часы быў падземны ход, якім карысталіся месцічы. Па яго словах, гэты ход пачынаўся ў Трокскім замку і выходзіў у Вільні, рыхтык у кляштары Дзіцятка Езус. «Пакінем наступным пакаленням даследчыкаў старажытнасцяў краю вывучэнне гэтых падзямелляў...» — падсумоўваў Нарбут.

Адзначым, што ўдзячныя нашчадкі не забылі пра паданні гэтага кутка былой сталіцы ВКЛ. Сёння пра таямнічыя сутарэнні пад Бакштай і пра драпежнага васіліска з-пад той гары вам з вялікай ахвотай распавядуць турыстычныя гіды падчас экскурсіі.

То-бок, план Вільні рукі Тэадора Нарбута — гэта не проста падрабязны і дасканалы тапаграфічны твор, але яшчэ і працяг яго бачання гісторыі нашай старажытнай сталіцы. Ілюстрацыя да яго літаратурна-гістарычнай спадчыны.

Як вядома, Нарбут валодаў дзевяццю мовамі. Таму не дзіўна, што план Вільні з каментарамі па-французску ён выканаў уласнаручна.

Застаецца пытанне, чаму спатрэбілася яго рабіць на гэтай мове? Для каго? Больш лагічным быў бы польскі тэкст, калі б ён быў разлічаны для ілюстрацыі яго кніг. Або рускамоўны варыянт, у выпадку стварэння плана для патрэб расійскай арміі (яшчэ да выхаду Нарбута ў адстаўку). Але раптам версія Кастуся Тарасава слушная, і Тэадор Нарбут рабіў франкамоўны варыянт плана Вільні для генерала Маро? Пытанне пакуль застаецца адкрытым і скіроўвае нашу ўвагу на французскі след.




▲ Аўтограф Тэадора Нарбута на кнізе «Хроніка літоўская» з калекцыі галоўнага кнігазбору Беларусі. Яго каштоўнасць цяжка пераацаніць. Па-першае, сама бібліятэка Нарбута была разрабаваная пасля паўстанні 1863–1864 гадоў; па-другое, адрасат аўтографа — той самы славуты заснавальнік Віленскага музею старажытнасцяў Яўстах Тышкевіч.

«Ягамосці графу Яфстаху Тышкевічу, маршалку павету Барысаўскага, чальцу Дацкага таварыства даследчыкаў старажытнасцяў. Знаўцу і аматару краёвых старажытнасцяў, аддаючы даніну павагі і пашаны, ахвяраваў гэтую Хроніку. Тэадор Нарбут. 1 лютага 1846. Шаўры».

# Знакаміты джазавы праект PIANO.PL прагучыць у Белдзяржфілармоніі

**Польскі Інстытут у Мінску і Беларуская дзяржаўная філармонія запрашаюць на «Джазавыя вечары ў філармоніі».**




Польская джазавая вакалістка, надзеленая харызмай і неверагодным голасам, кампазітар і аўтар песень Дарота Міськевіч, самы інтрыгуючы ў свеце струнны квартэт «Atom String Quartet» і віртуозны піяніст Дамінік Ваня прадставяць на вялікай сцэне Беларускай дзяржаўнай філармоніі знакаміты джазавы праект PIANO.PL.

Канцэрт адбудзецца 20 лістапада ў рамках культурнай праграмы да 100-годдзя аднаўлення незалежнасці Польшчы.

PIANO.PL — працяг надзвычайнага джазавага праекта, які меў месца ў 2016 годзе ў Варшаве, калі ўпершыню ў гісторыі на адной сцэне разам з Даротай Міськевіч выступілі адначасова самыя выбітныя польскія піяністы — Лешэк Можджэр, Уладзімір Нагорны, Дамінік Ваня, Марцін Васілеўскі, Гжэгаж Турнаў, Анджэй Ягадзінскі, Багдан Халоўня, Кшыштаф Хэрдзін, Міхал Токай, Пётр Ажэхоўскі і джазавы струнны квартэт сусветнага ўзроўню «Atom String Quartet» (Давід Любовіч — скрыпка, Матэвуш Смачыньскі — скрыпка, Міхал Заборскі — альт, Кшыштаф Ленчоўскі — віяланчэль). У Мінску будзе прадстаўлены «паменшаны» варыянт варшаўскага праекта, у якім разам з Даротай Міськевіч і «Atom String Quartet» выступіць адзін з удзельнікаў прэм’еры — таленавіты піяніст Дамінік Ваня.

Канцэрт і альбом PIANO.PL атрымалі высокую ацэнку крытыкаў і музычнага асяроддзя, вынікам чаго сталі шматлікія ўзнагароды, намінацыі і ганаровыя званні для музыкаў: «FRYDERYK-2016» (Джазавы музыкант года — Дарота Міськевіч і Джазавы альбом года — PIANO.PL), «JAZZ TOP 2016» часопіса «Jazz Forum» (найлепшы альбом і найважнейшая джазавая падзея — PIANO.PL), «Карыфеі польскай музыкі» (асоба года — Дарота Міськевіч), «JAZZ TOP 2017» часопіса «Jazz Forum» (джазавы вакаліст года — Дарота Міськевіч).

Дарота Міськевіч — адна з нямногіх, каму давялося спяваць дуэтам і рабіць запісы з легендарнай спявачкай Сезарай Эворай. Іх сумесная песня «Um Pincelada» была высока ацэнена аматарамі музыкі ва ўсім свеце. Дарота супрацоўнічала з Найджэлам Кэнэдзі, Дэвідам Мюрэем, Льюісам Вінсбергам, Тамашам Станькам і іншымі знакамітымі джазмэнамі Польшчы і свету. Яна запісала 7 аўтарскіх і незлічоную колькасць сумесных альбомаў.

Праектам PIANO.PL Дарота Міськевіч аддае належнае польскай піяністыцы. Сярод шматлікіх знакамітых музыкаў менавіта піяністы займаюць у Польшчы першыя пазіцыі. А паколькі для Дароты бліжэйшы музычны жанр — гэта джаз, яна падкрэслівае перадусім дасягненні польскіх джазавых піяністаў, якія эфектна крочаць шляхам, вызначаным калісьці сусветна вядомым музыкам Кшыштафам Камедай і, безумоўна, самім Фрыдэрыкам Шапэнам, які быў не толькі вялікім кампазітарам і піяністам, але таксама імправізатарам!

Канцэрт складаецца з песень, якія належаць да канону польскай музыкі, а іх выбар быў прадыктаваны асабістымі сімпатыямі Дароты, суб’ектыўным успрыманнем музыкі і тэксту. Аранжыроўкі да кожнай кампазіцыі стваралі піяністы, якія прымалі ўдзел у канцэртнай прэм’еры.






# Беларускія кельты адзначылі Самайн

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**У мінскай кавярні «Лісіная нара» прайшла вечарына для аматараў кельцкай культуры «Пост-Самайн».**

Выступалі беларускія гурты «Jolly Green», «Haunted House», салістка Марына Правалоцкая і Кірыл Букін. Малады чалавек прадставіўся як «ананімны гарманіст з Краснаярска» і граў з гітарным суправаджэннем. Гучалі танцавальныя мелодыі і песні з Ірландыі і Шатландыі.

Большасць танцораў, што выконвалі сэты (па малюнку нагадваюць беларускія кадрылі), вучацца ў школе «Celtic Dragon». Былі і танцы, да якіх можна далучыцца без папярэдняй падрыхтоўкі, — полькі ды вальсы. І, канечне, усімі любімая джыга па коле.

Самайн супадае па часе з больш познім святам Halloween і з’яўляецца яго дахрысціянскім папярэднікам. У сённяшняй масавай культуры адзначаецца ў ноч з 31 кастрычніка на 1 лістапада. У дахрысціянскія часы, магчыма, разлічваўся па сонечна-месяцавым календары і наступаў з пачаткам другога цыклу Месяца пасля восеньскага раўнадзенства. Самайн пазначаў канец збору ўраджаю і пачатак новага сельскагаспадарчага года. У народаў, што займаліся пераважна жывёлагадоўляй, як ірландцы, у гэты час пераганялі быдла з пашаў у хлявы на зімоўку. Па павер’ях, у гэты ж дзень і феі мянялі летнія сіды на зімовыя.

Паводле традыцыйных уяўленняў, у кропках «каляндарнага пераходу» танчэе мяжа між «гэтым» і «тым» светам, і тагасветныя істоты (душы продкаў ці нячысцікі) прыходзяць да людзей. Таму гэтыя даты часта адзначаюцца карнавалам, рытуальным пераапрананнем. Маскіраваныя выступаюць як прадстаўнікі іншасвету і абыходзяць гаспадароў, зычачы дабрабыту, за што атрымліваюць падарункі.



**Паводле традыцыйных уяўленняў, у кропках «каляндарнага пераходу» танчэе мяжа між «гэтым» і «тым» светам, і тагасветныя істоты прыходзяць да людзей**

У Беларусі найбольш яскравае пераапрананне прымеркавана да Калядаў, у паўднёвай Еўропе і Лацінскай Амерыцы — да Масленкі. Карнавал увосень вядомы кельцкім і фіна-ўгорскім народам, пад уплывам эстонцаў распаўсюдзіўся ў латышскай правінцыі Відзэмэ. У адрозненне ад кельтаў, фіна-ўгры пераапранаюцца не на пачатку лістапада, а 9-га (напярэдадні Дня Святога Марціна) і 25-га (Дзень Святой Кацярыны).

У Беларусі восеньскае пераапрананне невядомае. Аднак мы застаёмся ў агульнаеўрапейскім рэчышчы, святкуючы восеньскія Дзяды (праваслаўныя — у суботу перад Днём святога Дзмітрыя Салунскага, а каталікі — 2 лістапада).

**Фота аўтаркі**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1125

Падпісана да друку 16.11.2018. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.